● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

26 кастрычніка 1996 г. субота, № 257 (23060)



# ЗВЯЗДА

## «ЛЕТНІ» ЧАС СЁННЯ ЗАКАНЧВАЕЦЦА

Служба часу Белстандарта напамінае, што ў Рэспубліцы Беларусь адначасова, у адзіныя ўзгодненыя тэрміны з дзяржавамі, якія ўваходзяць у краіны Садружнасці Незалежных Дзяржаў і Еўрапейскага эканамічнага супольніцтва, 27 кастрычніка 1996 года ў 3 гадзіны заканчваецца перыяд дзеяння летняга часу пераводам стрэлак гадзінніка на адну гадзіну назад.

## ПА ЗАРПЛАЦЕ, ЗДАЕЦЦА, УСЁ Ж РАЗЛІЧЫМСЯ

**Указ Прэзідэнта аб канчатковым разліку па зарплаце ў кастрычніку, здаецца, усё ж будзе выкананы.**

Як стала вядома «Звяздзе», па стану на 20 кастрычніка ў цэлым па рэспубліцы заставалася выплаціць прыкладна 339 мільярдаў рублёў. Але істотна, што 323,3 мільярда з іх склалі нявыплаты за апошні месяц — верасень. Гэта дае падставу меркаваць, што канчатковыя разлікі адбудуцца ўжо на працягу бліжэйшых тыдняў.

Што да цяперашняй сітуацыі, то пакуль яна найгоршая па Гомельскай вобласці — 84,5 млрд. рублёў. Складаны стан спраў у Мінсельгасхарчы (237,1 млрд.), Мінбудархітэктуры (36,9 млрд.) і Мінпроме (19,8 млрд.). Затое можна канстатаваць, што практычна ліквідавана запазычанасць у бюджэтнай сферы (адукацыя, ахова здароўя і г. д.).

**Сяргей ГРЫБ.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## У РЭСПУБЛІЦЫ АМАЛЬ ЗАВЕРШАНА «БУЛЬБЯНАЯ» ПАРА

**Паводле апошніх даных Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, усяго выкапана бульба на плошчы 112,5 тысячы гектараў (што складае 99 працэнтаў ад пасаджанага). З улікам неапрацаваных з-за неспрыяльных прыродных умоў 8 тысяч гектараў гэтая лічба складае недзе 113,6 тысячы гектараў.**

На сённяшні дзень поўнасцю завяршылі ўборку бульбы гаспадаркі Гродзеншчыны — тут накапана 219,7 тысячы тон. У астатніх рэгіёнах, за выключэннем Гомельшчыны (98 працэнтаў), зафіксаваны паказчык у 99 працэнтаў апрацаваных плошчаў.

З самымі лепшымі паказчыкамі ўраджайнасці ўпэўнена лідзіруюць Брэсцкая — 166 і Гродзенская вобласці — 161 цэнтнер з гектара. Самыя нізкія ўраджаі на Віцебшчыне — 118.

Усяго гаспадаркамі накапана 1.661,4 тысячы тон бульбы. З іх прададзена дзяржаве 176. За межы Беларусі толькі па лініі Мінсельгасхарча было адпраўлена 52 тысячы тон (у Расію — 42,6, Малдову — 6,2, Узбекістан — каля тысячы тон). Як лічаць спецыялісты Мінсельгасхарча, агульная лічба замежнага продажу бульбы складае зараз недзе 75 тысяч тон.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

● Пасля веснавога прызыву гэтага года **звольнены 79** ваеннаслужачых тэрміновай службы з захворваннямі, якія перашкаджаюць яе праходжанню.

● Згодна з разлікамі, **здабыча беларускай нафты** ў наступныя 15 гадоў **будзе зніжацца** і да 2010 года складзе 1120 тысяч тон у год; да гэтага часу будзе здабыта 125 мільёнаў тон нафты.

● У рэспубліцы за 8 месяцаў зафіксавана **на 25,4 тысячы смерцяў больш**, чым з'явілася на свет дзяцей.

● Толькі ў сёлетнім годзе супрацоўнікамі сталічнай міліцыі выяўлены **204 факты хабарніцтва.**

● У наступным годзе **цэнавая палітыка** на прадукцыю паліўна-энергетычнага комплексу ў рэспубліцы будзе будавацца зыходзячы з рэальных затрат на вытворчасць, далейшага скарачэння колькасці льготных спажыўцоў паліва і энергіі, а таксама долі перакрыжаванага субсідзіравання.

● З пачатку гэтага года аддзелам па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю ўпраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкома зафіксавана **каля дзвюх з паловай тысяч эканамічных злачынстваў,** якія нанеслі ўрон дзяржаве ў памеры 37 мільярдаў рублёў.



Я не такая...

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

*НАЎЗДАГОН*

## У ПАЦЯРПЕЎШЫХ УКЛАДЧЫКАЎ З'ЯВІЛАСЯ НАДЗЕЯ

***Днямі Прэзідэнтам краіны была падтрымана ініцыятыва Беларускага грамадскага аб'яднання пацярпеўшых укладчыкаў аб паэтапнай кампенсацыі грамадзянам рэспублікі ўрону, нанесенага незаконнай фінансавай дзейнасцю нядобрасумленных кампаній. Карэспандэнт «Звязды» гутарыць з намеснікам старшыні аб'яднання Уладзімірам ОСЛІНЫМ.***

**— Як вядома, аб'яднанне прасіла ў кіраўніка дзяржавы льготны крэдыт у памеры 6 млн. долараў тэрмінам на паўтара года. Ён будзе вамі атрыманы?**

— Пакуль яшчэ невядома, як будзе ажыццяўляцца падтрымка аб'яднання дзяржавай. Бо грошы на кампенсацыю будзе зарабляць не толькі камерцыйная фірма нашага старшыні Ігара Клюева «Белнацыяналсервіс». Мы спадзяёмся, што прадпрыемствам, якія збіраюцца нас фінансаваць, будуць прадастаўлены значныя падатковыя льготы пры праходжанні тавараў праз мытную граніцу Беларусі.

**— Якія сродкі вам неабходна атрымаць, каб кампенсаваць страты ўкладчыкаў?**

— Сёння ў нас зарэгістравана больш як 16 тыс. членаў аб'яднання. Ад незаконнай дзейнасці фінансавых кампаній яны страцілі больш за 50 млрд. рублёў. Аднак ужо заўтра нашы рады могуць папоўніць каля 40 тыс. падманутых толькі з Мінска, ці каля 100 тыс. чалавек з усёй краіны. Пракуратура нам прадаставіла спісы 13 «МММ», якія «абабралі» людзей на 100 млрд. рублёў.

**— Першыя выплаты плануецца выдаваць з першага лістапада гэтага года. Ці падрыхтаваны ў вас спіс першачаргавікоў?**

— На апошнім сходзе таварыства было прынята рашэнне ў першую чаргу кампенсаваць урон інвалідам і ветэранам Вялікай Айчыннай вайны.

Потым трэба дапамагчы хворым на анказахворванні, інвалідам працы, былым вязням канцлагераў, маламаёмным і мнагадзетным сем'ям. Ужо цяпер мы падрыхтавалі такія спісы і рэкамендацыі да іх, але канчатковае рашэнне будзе прымацца ў Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*«ЧОРНЫ» РЫНАК*

## «ВАЛЮТЧЫКАМ» СПАКОЙ БУДЗЕ ТОЛЬКІ СНІЦЦА

**Выконваючы Указ Прэзідэнта Беларусі №31 «Аб удасканаленні дзяржаўнай грашова-крэдытнай палітыкі», Міністэрства ўнутраных спраў краіны сумесна з падатковай інспекцыяй рэгулярна праводзіць рэйды ў месцах, дзе адбываюцца незаконныя валютныя аперацыі.**

Як паведаміў «Звяздзе» намеснік начальніка аддзела упраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю (УБЭЗ) МУС Беларусі Валерый ГОЎЗІЧ, праваахоўныя і кантралюючыя органы сёлета дабіліся пэўных поспехаў у змаганні з «валютчыкамі». Так, за 9 месяцаў гэтага года супрацоўнікамі УБЭЗ было ўзбуджана 238 крымінальных спраў за незаконныя валютныя аперацыі, складзена 4180 адміністрацыйных пратаколаў. Агульная сума штрафаў, спагнаных з «валютчыкаў», склала 4 мільярды 825 мільёнаў рублёў.

Апроч таго, у «мянял» канфіскаваны 1 мільярд 514 мільёнаў разліковых білетаў Нацбанка Беларусі, 206 мільёнаў расійскіх рублёў, 69 тысяч амерыканскіх долараў і 13 тысяч нямецкіх марак.

Зрэшты, як адзначыў Валерый Гоўзіч, нягледзячы на пакаранні, многія «валютчыкі» не кідаюць свайго незаконнага «бізнесу». Штрафамі іх асабліва не запалохаеш, бо прыбытак, які яны атрымліваюць ад сваёй «мяняльнай» дзейнасці, намнога большы. Ды і злавіць «валютчыка» на месцы злачынства апошнім часам стала не так проста. Хоць яны і працуюць навідавоку. Але, па словах Валерыя Гоўзіча, у падпольных «мянял» ёсць свае службы аховы, якія пры набліжэнні міліцыі імгненна (па сотавых тэлефонах ці радыёстанцыях) папярэджваюць «валютчыкаў» аб небяспецы.

Рынак паслуг «валютчыкаў» зараз таксама не абмяжоўваецца дробнымі аперацыямі на вуліцах. Існуюць на «чорным» валютным рынку і больш салідныя «мянялы», якія праводзяць нелегальныя безнаяўныя валютныя аперацыі. Сумы, якія «круцяцца» пры такіх здзелках, па звестках праваахоўных органаў, складаюць сотні тысяч долараў. Прычым, нярэдка дзелавымі партнёрамі «чорных мянял» выступаюць нават дробныя банкі. Часта ў падобных аперацыях «адмываюцца» і «брудныя грошы» мафіі. Атрымліваецца, што «валютчыкі» не такія ўжо і бяскрыўдныя, як здаецца на першы погляд. Таму, па словах Валерыя Гоўзіча, праваахоўныя органы і далей будуць весці бескампрамісную барацьбу з «ценявымі мяняламі».

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## З 1997 ГОДА ЗАКУПАЧНЫЯ ЦЭНЫ НА СЕЛЬГАСПРАДУКЦЫЮ ПАЧНУЦЬ ПАСТУПОВА НАБЛІЖАЦЦА ДА СУСВЕТНАГА ЎЗРОЎНЮ

Закупачныя цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю ў 1997 годзе будуць паступова набліжацца да сусветнага ўзроўню. Так, паводле даных Камітэта цэн Міністэрства эканомікі рэспублікі, у будучым годзе рост цэн прагназіруецца на 30 працэнтаў (у сярэднегадавым вылічэнні). У той жа час у цэнаўтварэнні прадукцыі перапрацоўчай галіны аграпрамысловага комплексу захаваецца дзяржаўнае рэгуляванне на тавары, якія выпрацоўваюцца прадпрыемствамі на рэспубліканскім і мясцовых таварных рынках, а таксама на сацыяльна значныя прадукты харчавання: хлеб масавых гатункаў, малако і малочнакіслую прадукцыю, дзіцячае харчаванне. Зыходзячы з таго, што, згодна з параметрам, зададзеным урадам, інфляцыя ў рэспубліцы не павінна перавышаць 2 працэнты ў месяц, у будучым годзе спажывецкія цэны на сельгаспрадукцыю могуць узрасці ў 1,3 раза да ўзроўню гэтага года.

**Святлана ЮЗІК, БелаПАН.**

## РАБОЧЫ ТЫДЗЕНЬ ПРЭЗІДЭНТА

Чарговы рабочы тыдзень Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі, як і папярэдні, чакаецца вельмі напружаным, паведаміла прэс-служба Прэзідэнта. У ходзе рабочай паездкі ў Маладзечна і Маладзечанскі раён кіраўнік дзяржавы азнаёміцца са станам спраў на прадпрыемствах прамысловасці і будіндустрыі, ходам будаўніцтва жылля на вёсцы, развіццём сацыяльнай сферы, пабывае ў працоўных калектывах.

Значнае месца ў рабоце Прэзідэнта зоймуць грамадска-палітычныя мерапрыемствы. Прадугледжваецца, што А. Р. Лукашэнка прыме ўдзел у канферэнцыі рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны, працы, Узброеных Сіл і праваахоўных органаў, ва ўрачыстым сходзе, прысвечаным 75-годдзю Белдзяржуніверсітэта, адкрыцці Міжнароднай выстаўкі-кірмашу Мінскай, Маскоўскай і Кіеўскай абласцей у выставачным комплексе «Мінскэкспа».

Чакаецца, што кіраўнік дзяржавы таксама прыме ўдзел у адкрыцці выключна важнага для рэспублікі аб'екта — станцыі касмічнай сувязі, якая пабудавана ў Смалявіцкім раёне. Увод у эксплуатацыю гэтага цэнтра на поўную магутнасць дасць магчымасць аператыўна ўстанаўліваць спадарожнікавую сувязь практычна з усімі куткамі зямнога шара.

А. Р. Лукашэнка сустрэнецца з шэрагам кіраўнікоў цэнтральных органаў, заслухае іх справаздачы аб выніках практычнай дзейнасці і выкананні даручэнняў кіраўніка дзяржавы.

**БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЬ — ЗША: АДНОСІНЫ ВЫШЭЙШЫХ ДЗЯРЖАЎНЫХ ОРГАНАЎ І КІРАЎНІКОЎ ПАСОЛЬСТВАЎ ПАВІННЫ НАСІЦЬ АДЭКВАТНЫ ХАРАКТАР

**Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Аляксандр Лукашэнка 25 кастрычніка сустрэўся ў сваёй рэзідэнцыі з паслом ЗША ў нашай рэспубліцы Кенэтам Яловіцам.**



У паведамленні адзначаецца, што прыём амерыканскага пасла на самым высокім дзяржаўным узроўні сведчыць аб паслядоўнасці знешнепалітычнага курсу Беларусі, накіраванага на ўстанаўленне добрых і раўнапраўных адносінаў на цывілізаваных, дэмакратычных прынцыпах з усімі дзяржавамі.

Гутарка Аляксандра Лукашэнкі і Кенэта Яловіца прайшла канструктыўна, у абстаноўцы разумення грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі і неабходнасці ўмацавання супрацоўніцтва дзвюх краін у эканамічнай і гуманітарнай сферах.

**БЕЛТА.**

## НАРАДА Ў ПРЭЗІДЭНТА

**Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 25 кастрычніка кіраўнік дзяржавы А. Лукашэнка правёў рабочую нараду з прэм'ер-міністрам М. Чыгіром і віцэ-прэм'ерамі У. Гаркуном, В. Далгалёвым, В. Кокаравым, С. Лінгам. У нарадзе прыняў удзел кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь М. Мясніковіч, адказныя работнікі Адміністрацыі.**

На нарадзе былі падведзены папярэднія вынікі выканання рэспубліканскага бюджэту ў бягучым годзе, вызначаны падыходы да планавання дзяржаўнага бюджэту на 1997 год, а таксама разгледжаны пытанні цэнаўтварэння. Дэталёва прааналізаваўшы дзейнасць урада ў гэтым напрамку, Прэзідэнт указаў на неабходнасць павышэння эфектыўнасці работы асобных галін народнай гаспадаркі, скарачэння непрадукцыйных затрат. Кіраўнік дзяржавы запатрабаваў безумоўнага выканання прынятых ім рашэнняў па сацыяльнай абароне насельніцтва.

А. Лукашэнка звярнуў асаблівую ўвагу ўдзельнікаў нарады на рэалістычны і сацыяльна арыентаваны падыход да рэалізацыі палітыкі цэнаўтварэння ў краіне. Было падкрэслена, што асноўныя прадукты харчавання і тавары шырокага спажывання павінны быць даступны ўсім катэгорыям насельніцтва.

На нарадзе былі таксама абмеркаваны бягучыя пытанні работы ўрада, звязаныя з падрыхтоўкай да зімы і забеспячэннем жыццядзейнасці і кіравання дзяржавай.

**БЕЛТА.**

## РАБОТНІКАМ І ВЕТЭРАНАМ АЎТАМАБІЛЬНАГА ТРАНСПАРТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Сардэчна віншую вас з прафесіянальным святам — Днём аўтамабіліста.

У цяперашніх складаных умовах вы ўносіце значны ўклад у забеспячэнне народнай гаспадаркі і насельніцтва ў перавозках, паспяхова асвойваеце еўрапейскі транспартны рынак.

Аўтамабілісты краіны заваявалі добрую рэпутацыю ў замежных партнёраў, дабіліся ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі росту экспарту транспартных паслуг і тым самым садзейнічалі больш шырокаму развіццю знешнеэканамічных сувязей Рэспублікі Беларусь.

Па заслугах ацэньваючы работу аўтамабільнага транспарту, выказваю ўпэўненасць у тым, што беларускія аўтамабілісты пры бездакорнай якасці паслуг і ў далейшым будуць задавальняць патрэбнасці рэспублікі ў перавозках грузаў і пасажыраў, на належным узроўні падтрымліваць бяспеку руху.

Прыміце словы ўдзячнасці за сумленную і самаадданую працу.

Жадаю вам і вашым сем'ям здароўя, шчасця і дабрабыту.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

## С. ШАРЭЦКІ СУСТРЭЎСЯ З А.ЧУБАЙСАМ І І.РЫБКІНЫМ

**24 кастрычніка ў Маскве адбылося чарговае пасяджэнне Парламенцкага сходу Расіі і Беларусі, з беларускага боку на пасяджэнні была дэлегацыя дэпутатаў Вярхоўнага Савета на чале з С. Г. Шарэцкім, які адначасова з'яўляецца старшынёй вышэйназванага міжпарламенцкага органа Расіі і Беларусі.**

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі, падчас гэтага наведвання Масквы ён сустракаўся не толькі з расійскімі парламентарыямі, але і з уплывовымі расійскімі палітыкамі, якія прадстаўляюць выканаўчую ўладу. У прыватнасці, з кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Расіі Анатолем Чубайсам і новым сакратаром Савета бяспекі РФ Іванам Рыбкіным.

Нягледзячы на паспешлівыя заявы некаторых беларускіх СМІ, С. Шарэцкі падкрэсліў, што нічога асаблівага падчас гэтых перамоў не адбылося. Выкліканы яны былі ўзаемнай зацікаўленасцю С. Шарэцкага, А. Чубайса і І. Рыбкіна да гэтых сустрэч. Абмяркоўваліся праблемы развіцця беларуска-расійскай Супольнасці і ўнутраная сітуацыя ў Расіі і Беларусі, але паколькі ў Расіі нічога асабліва незвычайнага не адбываецца, а Беларусь рыхтуецца да рэферэндуму, то сітуацыі ў Беларусі было прысвечана больш часу. Гэта натуральна, бо Беларусь і Расія знаходзяцца ў адной Супольнасці і не могуць развівацца па розных накірунках, зазначыў С. Шарэцкі, спаслаўшыся таксама на падобнае меркаванне старшыні расійскага ўрада В. Чанамырдзіна.

Паводле слоў Сямёна Шарэцкага, Анатоль Чубайс выказаў жывую зацікаўленасць падзеямі ў Беларусі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ПАСАЖЫРСКІ ТРАНСПАРТ БЕЛАРУСІ ПАТРАБУЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПАДТРЫМКІ

**Напярэдадні Дня работнікаў аўтамабільнага транспарту, які будзе адзначацца заўтра, і 100-годдзя з моманту ўзнікнення беларускага аўтатранспарту ўвогуле, на базе Баранавіцкага АП-2 прайшоў семінар-нарада работнікаў аб'яднанняў, аўтобусных паркаў, аўтавакзалаў Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь.**

Першы намеснік міністра транспарту Рэспублікі Беларусь Васіль Чалоўскі пасля заканчэння мерапрыемстваў адзначыў, што сустрэча аказалася вельмі карыснай для ўсіх яе ўдзельнікаў.

Вядома, працягваў Васіль Яўгенавіч, працаваць зараз пасажырапеапераўвозчыкам надзвычай цяжка, але, як аказваецца, магчыма. І ўбачыць гэта можна на прыкладзе баранавічан. Тут для таго, каб захаваць больш-менш стабільнае фінансавае становішча і застацца жыццядзейным арганізмам, шмат чаго зроблена: ёсць уласныя рамонтныя плошчы, дзе атрымліваюць другое жыццё старыя аўтобусы, працуе цэх па вырабу пластмасавых кузаваў, поліэтыленавай плёнкі... Як зазначыў дырэктар АП-2 Уладзімір Пучко, гэта вельмі зручна для людзей. Праўда, ні гандаль, ні іншая пабочная дзейнасць не зможа вырашыць усе праблемы транспартнай галіны рэспублікі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# ДАПАМАГЧЫ ПРАДПРЫЕМСТВАМ — ВЫРАТАВАЦЬ РЭГІЁНЫ

**Складанай сітуацыі на шэрагу прамысловых прадпрыемстваў Смаргоні магло і не быць, калі б іх кіраўнікі своечасова ўзяліся за вырашэнне набалелых пытанняў. Такую думку выказаў у інтэрв'ю для прэсы 24 кастрычніка, пасля заканчэння рабочай паездкі ў гэты горад на Гродзеншчыне, прэм'ер-міністр рэспублікі Міхаіл Чыгір.**

Асабліва хвалявала кіраўніка ўрада становішча спраў на заводах аптычнага станкабудавання і агрэгатным. На першым з іх за апошнія пяць гадоў амаль у тры разы зменшыўся працоўны калектыў, а для тых 1,5 тысячы чалавек, што засталіся, не могуць забяспечыць поўны рабочы дзень. Склады затаварaны прадукцыяй, прадпрыемства ўсё глыбей пагружаецца ў даўгавую яму. Зарплату людзям прыходзіцца выдаваць ужо з бюджэтных сродкаў.

Абодва прадпрыемствы тэхнічна вельмі добра аснашчаны, адзначыў Міхаіл Чыгір, у іх ёсць магчымасць выжыць у цяжкіх умовах, калі пачнуць вырабляць шырокі асартымент тавараў народнага спажывання і вытворча-тэхнічнага прызначэння, гэта значыць тое, што карыстаецца попытам. Пакуль жа адбываецца адваротнае: тое, што раскупліваецца, выпускаецца ў абмежаванай колькасці. За стан спраў на смаргонскіх прадпрыемствах прэм'ер-міністр вінаваціць перш за ўсё ўрад, галіновае міністэрства і саміх кіраўнікоў заводаў.



На думку кіраўніка ўрада, няма сумненняў, што гэтыя прадпрыемствы ў недалёкай будучыні стануць на ногі. Для пошуку шляхоў па вываду іх з крызісу будзе створана спецыяльная камісія. Наконт гэтага ёсць ужо і праграма, падрыхтаваная ў Міністэрстве прамысловасці. Акрамя гэтага, калектывам будзе аказана і матэрыяльная дапамога, але не за кошт бюджэту, а праз крэдытныя рэсурсы.

Заводы аптычнага станкабудавання і агрэгатны, а таксама яшчэ каля трыццаці «ляжачых» прадпрыемстваў рэспублікі на асобым кантролі ўрада, сказаў прэм'ер-міністр. Але для смаргонскіх заводаў складанасць заключаецца яшчэ і ў тым, што яны размешчаны ў невялікім горадзе. І нізкая зарплата іх рабочых, якая да таго ж выплачваецца несвоечасова, адмоўна адбіваецца на сямейным бюджэце людзей, а дрэнная жыццядзейнасць заводаў — на развіцці рэгіёна ў цэлым.

**Міхаіл ЖУРАВОВІЧ, БЕЛТА.**

# АКЦЫЯ ПРАТЭСТУ СУПРАЦЬ ЗША ПРАЙШЛА ПРЫ СВЕЧКАХ

**Нядаўна сусветная супольнасць адзначыла Міжнародны дзень Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Своеасабліва аднеслася да гэтай даты Беларуская асацыяцыя садзейнічання ААН.**

Сёння хто толькі не пратэстуе ў нашай сталіцы: падманутыя нядобрасумленнымі фінансавымі кампаніямі ўкладчыкі, пенсіянеры, студэнты, настаўнікі, дробныя прадпрымальнікі (ці так званыя «чаўнакі»), палітычныя рухі, партыі, плыні, прафсаюзы і г. д. Але ўсе гэтыя акцыі імкнуцца прыцягнуць увагу мясцовых уладаў. Інакш кажучы, для ўнутранага карыстання.

Здавалася, мінулі тыя часы, калі пад пільным вокам партыйных камітэтаў збіраліся шматтысячныя натоўпы барацьбітоў за мір і шумна пратэставалі супраць агрэсіўнага і нахабнага сусветнага імперыялізму ў цэлым і яго ваяўнічага лідэра Злучаных Штатаў Амерыкі, у прыватнасці. Аднак, бачна па ўсім, традыцыя выказваць сваё абурэнне дзеяннямі ЗША, не памерла.

Днямі Беларуская асацыяцыя садзейнічання ААН правяла акцыю пратэсту супраць палітыкі Вашынгтона ў адносінах да Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Справа ў тым, што ЗША маюць велізарную фінансавую запазычанасць перад гэтай міжнароднай арганізацыяй. На сённяшні дзень амерыканскі доўг па ўзносах у яе бюджэт склаў астранамічную суму — 1,6 мільярда долараў! Гэта больш, чым запазычанасць усіх краін — членаў ААН, разам узятых. Няўплата Вашынгтонам доўгу ставіць на грань фінансавага банкруцтва буйнейшую і самую аўтарытэтную ў свеце міжнародную арганізацыю.

З гэтай нагоды члены Беларускай асацыяцыі садзейнічання ААН вырашылі выказаць сваё адносіны да нежадання ЗША плаціць своечасова ўзносы ў бюджэт ААН.

Тамара Гуцава, загадчык кафедры культуралогіі лінгвістычнага універсітэта, зазначыла:

— Сёння, калі свет хутка і радыкальна мяняецца, а перад чалавецтвам паўстаюць новыя глабальныя праблемы, неабходна рэформа механізма дзеяння ААН. Для яе паспяховай дзейнасці неабходна адпаведная эканамічная падтрымка, з чым пагаджаюцца ўсе. ЗША таксама. Але тым больш здаюцца мне цынічнымі разважанні лідэраў ЗША аб справядлівасці, правах чалавека, неабходнасці барацьбы з галечай, наркаманіяй, злачыннасцю і г. д. Надышоў час ім ад слоў перайсці да спраў. І важным крокам на гэтым шляху стала б ліквідацыя запазычанасці.

Анатоль Гусеў, прафесар Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы пры БДУ, каля 10 гадоў прапрацаваў у Сакратарыяце ААН.

— Тады я пераканаўся ў тым, што без зацвярджэння праграмы «Бюджэт» не варта нават і размову весці аб нейкай канкрэтнай рабоце. Напрыклад, па выкананню рашэнняў Генасамблеі па правах чалавека, за якія аднагалосна прагаласавалі ўсе члены ААН.

Агульнавядома, як адміністрацыя прэзідэнта і ўрад ЗША заклапочаны гэтай праблемай у іншых краінах. Мы, члены асацыяцыі, шчыра спадзяваліся, што шляхам ліквідацыі запазычанасці Злучаных Штатаў будзе ўзмоцнена фінансаванне Цэнтра ААН па правах чалавека. І такім чынам Беларусь атрымае дапамогу з боку з ААН у стварэнні нацыянальнай сістэмы адукацыі ў галіне праvоў чалавека. У ёй неабходныя веды атрымлівалі б выкладчыкі ВНУ і сярэдніх школ, прадстаўнікі няўрадавых арганізацый. Але нашы спадзяванні не здзейсніліся, — гаворыць прафесар Гусеў.

Паводле слоў Віктара Іванава, прэзідэнта асацыяцыі, акцыю пратэсту прымеркавалі да дня ААН і яна была адначасова праведзена ў многіх краінах пад лозунгам «Выратуем ААН ад разбурэння».

— А чаму сход адбыўся пры свечках, навошта гэта экзотыка?

— Арганізатарам акцыі выступіла Сусветная федэрацыя асацыяцый садзейнічання ААН. Яна параіла выказаць пратэст у форме начнога дбання пры свечках. Адно з цэнтральных такіх мерапрыемстваў прайшло ў Нью-Йорку. Яно было задумана як прадстаўнічая міжнародная дэманстрацыя пратэсту з удзелам многіх грамадскіх арганізацый свету супраць фінансавага крызісу ААН па віне ЗША.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# ДЭТЭКТЫЎ ВЫРАС З ДАКУМЕНТА

**Выхад з друку новай кніжкі — ва ўсе часы радасная і хвалюючая падзея для аўтара. А зараз тым больш. Таму што перашкоды на шляху ад стварэння твора да сустрэчы яго з чытачамі не кожны можа пераадолець. Тут мала таленту творцы, трэба яшчэ мець і талент менеджэра, талент выдаўца, талент выключна працавітага, цвёрдага духам чалавека.**

Прыемна, калі ўсімі гэтымі добрымі якасцямі валодае твой калега. Уладзімір Гойтан, а гаворка ідзе пра яго, аддаў «Звяздзе» 25 гадоў, пабываў (і не адзін раз) амаль ва ўсіх раёнах краіны, напісаў сотні артыкулаў. Газетныя жанры не заўсёды дазваляюць журналісту выкарыстаць усе факты, падзяліцца сваімі назіраннямі: шмат што застаецца, як кажуць, за кадрам. Так журналіст прыходзіць да думкі аб стварэнні кніжкі. Іх Уладзімір Гойтан за гады працы ў «Звяздзе» выдаў каля дзесятка. «Призраки приходят ночью» — апошняя з іх.

Назву кніжкі вызначыла аднайменная дэтэктыўная аповесць з дзвюх частак — «Черные тени на белом снегу» і «Когда тени оживают». Чытачам цікава будзе ведаць, што і ў аповесці, і ў апавяданняў дакументальная аснова. Усе падзеі былі на самай справе, адбываліся ў беларускіх гарадах і сёлах, а прататыпамі літаратурных у дадзеным выпадку герояў былі канкрэтныя людзі. Дарэчы, іх жыццяпіс, учынкі, прозвішчы (Барада, Мезін, Карпюк, Баршчэўскі, Катовіч і іншыя) вядомы не толькі ў праваахоўных органах, але і чытачам. Судовыя працэсы над гэтымі злачынцамі ў свой час выклікалі вялікі грамадскі рэзананс.

Захапляльная фабула аповесці і апавяданняў Уладзіміра Гойтана, трапныя характарыстыкі дзеючых асоб, дынамізм развіцця падзей — усё гэта несумненна выкліча цікавасць чытачоў. Розных па ўзросту, але аднолькавых па добраму густу.

**Міхаіл МІХАЕВІЧ.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

*ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ*

## ПРЫСВАЕННЕ ГАНАРОВАГА ЧЭМПІЁНСКАГА ЗВАННЯ АДКЛАДВАЕЦЦА

Пазаўчора на мазырскім стадыёне «Юнацтва» мог, за тры туры да фінішу, вызначыцца чэмпіён VI чэмпіянату Беларусі па футболу. Сустракаліся лідэры сёлетняга чэмпіянату — мінскія дынамаўцы і МВКЦ. Перамога любой з каманд фактычна датэрмінова ўзводзіла яе на вышэйшую ступеньку п'едэстала... Таму стаўкі на вынік гульні рабіліся вялікія.

Апошнім часам беларускі клубны футбол завяз у шматлікіх чутках і каляфутбольных інтрыгах. Быццам бы МВКЦ знаходзіць метады, каб задобрыць арбітраў на гульнях з удзелам «Белшыны», салігорскага «Шахцёра», віцебскага «Лакаматыва-96». Пры гэтым прысутнасць на сустрэчы палескіх футбалістаў зусім не абавязковая.

Перад важным паядынкам у журналісцкіх кулуарах нават пагаворвалі, што мазыране спецыяльна сарвуць тэлетрансляцыю, каб не паказваць беларускім балельшчыкам запланаваныя «памылкі» арбітраў сустрэчы і «ліпавыя» пенальці ў вароты гасцей.

Як аказалася, чуткі не адпавядаюць сапраўднасці. Абедзве каманды паказалі дабротны футбол. Каманды абмяняліся галамі. Усе чакалі апошніх хвілін, калі Сярожкін павінен быў нешта «выдумаць» на карысць МВКЦ. Але ж гэтага не адбылося — 1:1. Фінальны свісток у многім развеяў чуткі наконт здольнасці айчынных арбітраў «прадавацца» і адклаў прысваенне ганаровага чэмпіёнскага звання як мінімум на два тыдні.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## *ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

### ЗНІКШЫЯ БЕЗ ВЕСТАК — НЕ ЗНАЧЫЦЬ ЗАБІТЫЯ

Чачэнскі баявік прапанаваў абмяняць пяць расійскіх вайскоўцаў на свайго брата, якога затрымаў федэральны бок. Баявік звярнуўся з такой прапановай да музыкантаў групы ДДТ па заканчэнні іх канцэрта з Грозным. Па яго словах, гэтыя вайскоўцы лічацца без вестак прапаўшымі. Ён запэўніў, што яны жывыя.

### У АФГАНІСТАНЕ ГІНУЦЬ НЕВІНАВАТЫЯ ЛЮДЗІ

У ноч на пятніцу авіяцыя талібаў здзейсніла налёты на вёскі ў ваколіцах Кабула, якія знаходзяцца пад кантролем урадавых войскаў шах Масуда. У чацвер талібы падверглі бамбардзіроўцы горад Джабаль-Усерадж, дзе знаходзіцца штаб-кватэра шах Масуда, і паселішча Калакан. У Калакане загінула сама меней 14 мірных жыхароў. Апошнія чатыры дні лінія фронту каля сталіцы Афганістана не змянялася. Працягваюцца перастрэлкі з артылерыйскіх гармат, мінамётаў і рэактыўных установак. Войскам шах Масуда, на баку якіх ваююць і часці генерала Дустума, не ўдаецца захапіць стратэгічны перавал Сабс, які адкрывае дарогу на Кабул.

### «ХЭЗБАЛАХ» ВЫКАНАЛА ПАГРОЗЫ

Два ізраільскія салдаты былі забіты і яшчэ чацвёра атрымалі раненні ўчора раніцай у зоне бяспекі ў Паўднёвым Ліване, якую кантралюе Ізраіль. Адказнасць за напад узяла на сябе экстрэмісцкая групоўка «Хэзбалах». У адказ ізраільская артылерыя падвергла абстрэлу мяркуемыя пазіцыі «Хэзбалах» у Ліване.

### РАСІЯ МОЖА ЗАСТАЦЦА БЕЗ АРМІІ?

«Расійскія Узброеныя Сілы знаходзяцца ў стане вострага крызісу» — лічыць міністр абароны Радзівонаў. Радзівонаў заявіў, што хранічнае недафінансаванне прыняло армію да мяжы, за якой могуць пачацца непажаданыя і некантралюемыя працэсы. Міністр сказаў, што пакуль сітуацыя ў цэлым у арміі кіруемая, але падкрэсліў, што асабліва нецярпімае становішча ў сацыяльнай галіне. На думку Радзівонава, Расія можа страціць Узброеныя Сілы, калі абаронны бюджэт на будучы год не будзе скарэкціраваны.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

## *ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

Аўстрыйскі выдавец Курт Фольк перадаў на дабрачынныя мэты адзін мільён шылінгаў (92.000 долараў), закрыўшы тым самым справу аб паклёпе, якую меў намер узбудзіць супраць яго ў судзе прэзідэнт краіны Томас Клесціль. Адначасова газета «Тэгліх алес», якая належыць Фольку, абавязалася апублікаваць абвяржэнне надрукаванага яшчэ ў верасні на яе старонках артыкула, у якім сцвярджалася, быццам прэзідэнт хворы на СНІД. Канцылярыя прэзідэнта паведаміла, што пасля крокаў, якія зрабіў выдавец, кіраўнік дзяржавы лічыць пытанне вычарпаным.

**Рэйтэр.**

*У азнаменаванне тысячагоддзя Аўстрыі, якое адзначаецца ў сёлетнім годзе, авіякампанія «Острыан Эрлайнз» вырашыла ўпрыгожыць адзін з сваіх самалётаў партрэтамі знакамітых суайчыннікаў. Усяго такіх партрэтаў 28. Сярод іх асобы, якія ўжо сталі гісторыяй і якія жывуць цяпер, — мастакі, музыканты, палітыкі, каралі і нават спартсмены. Словам, увесь спектр гонару гэтай еўрапейскай краіны — ад Моцарта і Фрэйда да Білі Уайлдэра і Ромі Шнайдэр.*

**ІТАР—ТАСС.**

Затрыманы з фальшывай грашовай купюрай мастак-афарміцель аднаго з уфімскіх кааператываў прызнаўся, што «ў яго ніколі не было жадання вырабляць фальшывыя банкноты». Проста ён «марыў зрабіць шпалеры ў выглядзе намаляваных банкнотаў».

Аднак ён спрабаваў расплаціцца за праезд у аўтобусе менавіта сваім вырабам. У час вобыску ў яго кватэры былі канфіскаваны кучы «нарыхтовак для шпалераў».

**«Труд».**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра ў Гомелі — 5—7, Гродне, Брэсце, Мінску, Магілёве — 6—8, Віцебску — 7—9 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак надвор'е істотна не зменіцца. Тэмпература ўначы — мінус 3 — плюс 2, удзень — 6—11 градусаў вышэй нуля.

# «БЕЛАРУСКІ БАЙКАЛ» ПА-РАНЕЙШАМУ ХВОРЫ

***З НАРАЧЫ** пастулае супярэчлівая інфармацыя. Па адных крыніцах, санітарная сітуацыя там у параўнанні з мінулым годам палепшылася. Па другіх, наадварот, пагоршылася. Засмуціла, што сёлета ў лік забруджаных трапілі зусім нядаўна чыстыя месцы — напрыклад, зона прафілакторыя «Журавушка». А гэта якраз побач са знакамітым дзіцячым лагерам «Зубраня». І мы вымушаны зноў вярнуцца да тэмы.*

*На пытанні карэспандэнта «Звязды» згадзіўся адказаць віцэ-прэзідэнт Беларускай інжынернай акадэміі Эдуард Міхневіч. Акадэмія даўно адсочвае сітуацыю на возеры. А яшчэ па ініцыятыве абласнога камітэта па экалогіі тая кафедра політэхнічнай акадэміі, якой якраз загадвае Эдуард Іванавіч, удзельнічала ў ацэнцы экалагічнага стану Нарачы і выяўленні крыніц забруджання.*

**— Эдуард Іванавіч, па статыстыцы эпідэміёлагаў, летам мінулага года кожны дваццаты дарослы і кожнае чацвёртае дзіця выходзілі з нарачанскіх вод са скурным захворваннем. Як сёлета?**

— Па звестках санстанцыі, адбылося хай і невялікае, але паляпшэнне сітуацыі. Відаць, не апошнюю ролю адыграў той факт, што да праблем возера была прыцягнута ўвага грамадскасці. Адбыліся семінары, з'явіліся публікацыі ў прэсе. Мясцовым уладам і спецыялістам-эпідэміёлагам мо хоць крышачку стала лягчэй вырашаць пытанні. Хацелася б у гэта верыць. І ў той жа час заражэнні, прытым масавага характару, усё роўна былі. Усё залежала ад месца, дзе чалавек купаўся. І ад інфармаванасці адпачываючых.

**— Патлумачце, калі ласка, больш падрабязна.**

— Напомнім чытачу, што прычынай захворвання з'яўляюцца лічынкі шыстасаматыд вадаплаўных птушак (цэркарыёзы). Яны разносяцца дзікімі качкамі і, трапляючы ў ваду, развіваюцца ў малюсках. На наступнай стадыі яны ўжо размнажаюцца на фітапланктоне — інакш кажучы, на водарасцях, розных травах, якімі зарастае возера. Калі вы ідзяце па дну і адчуваеце пад нагамі не пясок, а расліннасць, у якой патанае нага, а побач бачыце яшчэ і чарот, то ведайце, што тут найбольшая небяспека атакі шыстасаматыд. Па цеплавому промню яны нячутна нападаюць на чалавека, трапляюць у поры яго скуры. Найчасцей заражэнне адбываецца праз мяккія ўчасткі скуры на руках і нагах. З'яўляюцца пакрасненні, высыпанне. Лечаць іх, змазваючы дэзінфіцыруючым растворам. Калі яго пад рукой няма, можна выкарыстоўваць гарэлку або спірт. За тры-чатыры дні ўсё праходзіць, калі перастаць купацца. Зрэшты, калі не лячыцца, таксама пройдзе, толькі праз шэсць-сем дзён. Праўда, бываюць і ўскладненні — у людзей, схільных да алергій. Тады сітуацыя можа набыць вострыя формы — з павышэннем тэмпературы і гэтак далей. Так што і ад інфармаванасці людзей, як можна зразумець, залежыць нямала. Своечасова інфармаваныя людзі ведаюць, як сябе паводзіць.

**— Вядома, што ваша кафедра распрацавала праграму экалагічнага аздараўлення возера Нарач. Якую канцэпцыю аздараўлення вы прапанавалі?**

— Мы зыходзілі з таго, што галоўная прычына экалагічнай сітуацыі, якая склалася, — гэта ўздзеянне антрапагенных нагрузак на возера. З'яўленне на працягу апошніх аднаго-двух дзесяцігоддзяў шматлікіх курортных устаноў з адпаведнымі інфраструктурамі. Вінаватыя таксама меліярацыя зямель, гаспадарчая дзейнасць чалавека ў водазаборы Нарачы. Там вырошчваюцца сельскагаспадарчыя культуры, уносяцца ўгнаенні, а потым дажджы вымываюць азот, фосфар і калій, і яны са сцёкамі трапляюць у возера, ствараючы спрыяльнае асяроддзе для развіцця таго ж фітапланктону.

Па-другое, недастаткова высокі ўзровень функцыянавання ачышчальных збудаванняў і каналізацыйных сістэм на аб'ектах возера. Скажам, напорны каналізацыйны калектар пабудавалі на плывунных грунтах проста ўздоўж берага. Калектар — чыгунны, часта дае трэшчыны, і гэта даволі адчувальная крыніца забруджвання. Даводзіцца думаць над тым, каб у найбольш небяспечных месцах будаваць бар'ерныя каналы і па іх адводзіць аварыйныя выкіды далёка ўбок.

Раней існаваў такі парадак: усе карыстальнікі павінны былі скідваць у ваду адходаў менш за гранічна дапушчальныя канцэнтрацыі. У адносінах да возера, якое унікальнае і само па сабе, і як усебеларуская здраўніца, такі падыход канцэптуальна няправільны. Туды наогул нельга нічога скідваць. Нічога! Гэтага не разумелі.

Зараз, калі Нарач стала курортам нумар адзін у рэспубліцы, людзі вымушаны задумвацца над яе лёсам. І мэта нашай праграмы — абясшкодзіць, нейтралізаваць усе крыніцы забруджвання.

На жаль, вучоныя і спецыялісты не былі своечасова прыцягнуты да вырашэння праблемы. Яшчэ і сёння кожны пансіянат сам па сабе нешта чысціць, фільтруе. Гэта пры тым, што эксплуатуемыя ачышчальныя сістэмы ўжо даўным-даўно састарэлі. Вось і ва ўрадавым доме адпачынку, дзе летась назіраліся масавыя скурныя захворванні, усё, здаецца, функцыянуе, а на справе праз грунты ў возера пранікаюць адходы. Потым паціскаюць плячыма: «Сосны» ў адасобленым месцы, і раптам такое забруджванне! А глядзець трэба глыбей. У прамым сэнсе слова.

**— Але значная частка забруджванняў трапляе з паветра. З імі як змагацца?**

— Куды больш складана. Відаць, з цягам часу праблема запатрабуе пераносу ўсіх прамысловых аб'ектаў з наваколля Нарачы. Пакуль жа першачарговая задача — давесці да ладу ачышчальныя збудаванні, каналізацыйную і меліярацыйную сістэмы. Калі першачарговыя мерапрыемствы прадумаць як след і выканаць, экалагічны стан возера Нарач рэзка палепшыцца.

**— Вы падлічылі, у якую капейчыну гэта выльецца? І хто будзе плаціць?**

— Зараз цяжка дакладна сказаць, у што гэта абыдзецца. Думаю, праект аздараўлення Нарачы варта ажыццяўляць паэтапна. Пачынаць з тых крыніц забруджвання, якія ўносяць найбольшы «ўклад». Гэта дасць эфект ужо ў бліжэйшы час. Не ўсе тэхнічныя рашэнні вельмі дарагія. Тое ж будаўніцтва засцерагальных дыяфрагмаў або дрэнажу, адвод прафільтраваных вод. Хай сабе некаторыя меры будуць і часовымі, пакуль мы зможам дазволіць сабе лепшыя. Такія, як узвядзенне ачышчальных збудаванняў па сучасных замежных тэхналогіях. Калі замест сажалак-адстойнікаў ствараюцца кампактныя ачышчальныя ўстаноўкі, дзе адходы утылізуюцца, ператвараюцца ў цвёрдыя пласты і вывозяцца на перапрацоўку.

**— Тым не менш, ужо сёння хоць нейкія намёкі на фінансавую падтрымку праекта ёсць?**

— Пэўную фінансавую дапамогу аказвае абласны камітэт па экалогіі. Трэба наогул аддаць належнае Мінскаму аблвыканкому — там разумеюць нарачанскую праблему. Калі б аблвыканком у свой час не прыняў мераў, мы мелі б значна горшую сітуацыю. А так — змянілі структуру пасеваў, усе прапашныя культуры вынеслі за межы водаахоўнай зоны, пакінуўшы лугі, якія практычна не ўплываюць на чысціню возера. Вядзецца будаўніцтва новых ачышчальных і каналізацыйных збудаванняў. Праўда, марудна.

Думаю, мае сэнс прыцягнуць увагу замежных экалагічных фондаў. Нарач — унікальны прыродны аб'ект. І калі актыўна працаваць з Еўрапейскім экалагічным фондам або нават Японскім фондам для экалогіі Еўропы (ёсць і такі), ажыццяўляць з імі праграмы міжнароднага супрацоўніцтва, то рэальным становіцца атрыманне інвестыцый. Напрыклад, Белавежская пушча атрымала іх бязвыплатна.

**— А калі ўсё пакінуць як ёсць?**

— Ужо праз дзевяць гадоў мы наогул ПОЎНАСЦЮ СТРАЦІМ НАРАЧ ЯК ВОЗЕРА, ШТО МОЖА СЛУЖЫЦЬ МЭТАМ РЭКРЭАЦЫІ. Інакш кажучы, людзі будуць туды ездзіць, глядзець на гэтую ваду, сядзець на беразе, але купацца, паўнацэнна адпачываць не змогуць.

У 50-х гадах Нарач лічылася адным з самых чыстых азёр Еўропы. Празрыстасць была 6 метраў. Зараз яна зменшылася ў сем разоў.

**— Акрамя фінансавых складанасцей — што яшчэ замінае?**

— Маючы на ўвазе не толькі возера Нарач, скажу, што ў сур'ёзным паляпшэнні адчувае патрэбу ўся сістэма кіраўніцтва воднай гаспадаркай. Разумею складанасці з бюджэтам, але ўсё ж лічу, што наспеў час стварыць самастойны дзяржаўны камітэт па воднай гаспадарцы. Які спецыялізаваўся б на праблемах ачысткі і аховы вады, распрацоўкі і будаўніцтва ачышчальных збудаванняў, падтрымцы неабходных рэжымаў на вадаёмах і рэках. Камітэт аператыўна рэагаваў бы на любое ўскладненне сітуацыі. Дакладней, ён наогул не дапусціць ускладненняў і такім чынам апраўдае затрачаныя на яго сродкі. А пакуль праблематыкай займаюцца розныя ведамствы. Жыллёвыя і ачышчальныя сістэмы — у веданні жыллёва-камунальных гаспадарак. Водазабеспячэнне і разведка — у «Беларусьгеалогіі» і гэтак далей. Нават адзінага кіраўніцтва курортам Нарач няма. Розныя ведамствы панабудавалі санаторыяў, пансіянатаў, дамоў адпачынку і поўнасцю гаспадараць у прылеглай зоне. Іншы раз з грубымі парушэннямі санітарных нормаў.

**— Вернемся да вашай праграмы. На колькі гадоў яна разлічана?**

— Першы этап, — а гэта тое, што датычыць выдалення забруджаных сцёкавых вод, — павінен быць завершаны ўжо сёлета. І калі работа па распрацаванай праграме будзе весціся пастаянна, спатрэбіцца тры-чатыры гады, каб зрабіць возера чыстым, бяспечным.

**Запісаў Цімур КУДЗЕЯР.**

***МЕРКАВАННЕ***

# ХТО ПЕРАМОЖА Ў ЗАПАЛОХВАННІ ВЫБАРШЧЫКАЎ

**ЧЫМ БЛІЖЭЙ да рэферэндуму, тым вышэй напал палітычнага процістаяння, тым больш эмоцый і страсцей. У які яшчэ перыяд новай беларускай гісторыі абвінавачанні ў дыктатуры і фашызме станавіліся будзённай практыкай палітычнай барацьбы? Прычым карыстаюцца гэтымі гучнымі тэрмінамі ўсе бакі, уцягнутыя ў канфлікты. Вось і паспрабуй, рядавы выбаршчык, не дасведчаны ў палітыка-прававых тонкасцях такога складанага дакумента, як Канстытуцыя, разабрацца, што да чаго, калі, з аднаго боку, Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі папярэджвае, што «ў Беларусі запахла фашызмам», а з другога — Галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай Адміністрацыі Прэзідэнта сцвярджае, што кіраўніцтва Вярхоўнага Савета імкнецца «да дыктатарскай бескантрольнай улады».**

І гэта саперніцтва — хто больш напалохае выбаршчыкаў сапраўднымі і ўяўнымі пагрозамі, якія выношвае палітычны апанент, будзе працягвацца яшчэ цэлы месяц.

Ну а якая можа быць стваральная праца, калі ўлада на ўсіх узроўнях і ва ўсіх галінах у многім занята прапагандысцкім і арганізацыйным забеспячэннем перамогі на рэферэндуме, а выбаршчык, — запалоханы і разгублены — чакае, пакуль вырашыцца яго лёс і надыдзе (у залежнасці ад палітычных прыхільнасцей) ці то змрочная паласа цемрашальства, дыктатуры і бяспраўя, ці то светлая эра вырашэння ўсіх сацыяльных праблем, калі згуртаваны народ пад мудрым кіраўніцтвам пераможа ўсіх ворагаў і верне страчаныя заваёвы.

Вялізную частку беларускага насельніцтва, уцягнутую сёння ў гэту шырокамаштабную кампанію, чакае вялікае расчараванне.

Прачнуўшыся ў панядзелак, 25 лістапада, і даведаўшыся (з радасцю ці расчараваннем) пра вынікі рэферэндуму, беларускі абывацель не без здзіўлення ўбачыць, што жыццё вакол яго не змянілася да лепшага: цэны не знізіліся, зарплата не стала большай, заводы па-ранейшаму працуюць напаўсілы, у бальніцах як не было, так і няма лякарстваў...

З не меншым здзіўленнем тыя, хто палохаў фашызмам (у выпадку, калі Прэзідэнт даб'ецца, каб прынялі яго Канстытуцыю), выявіць, што дзяржава не пачала будаваць канцлагеры, што за іншадумства не ссылаюць на Салаўкі і што апазіцыйныя партыі працягваюць дзейнічаць, як і дзейнічалі.

У любым выпадку і пры любым зыходзе рэферэндуму вялікая частка беларускага народа праз месяц-другі задасць сабе лагічнае пытанне: «Навошта і каму ўсё гэта было патрэбна?»

Іншая, больш дасведчаная, частка насельніцтва не без цікавасці будзе назіраць, як пасля рэферэндуму пачнуць мяняцца твары ў высокіх кіраўніцкіх кабінетах, узнікнуць новыя вакансіі, новыя дзяржаўныя органы. Пачнецца новы этап закуліснай барацьбы — за партфелі, узнагароды, чыны, за ўплыў на эканоміку і фінансы...

Селяніну-калгасніку з якога-небудзь N-скага раёна ад гэтых перадзелаў і замен адной кіраўніцкай каманды на другую ніколі ніякіх істотных матэрыяльных даброт не перападала. І не перападзе.

Таму разважлівыя людзі, якія перажылі не адну змену ўлады і чулі на сваім вяку нямала абяцанняў светлай будучыні, не цешаць сябе ілюзіямі і не ўскладаюць вялікіх надзей на чарговую «эпахальную падзею». Куды больш удзячная справа — спадзявацца на ўласныя рукі і розум і дбаць не столькі пра шчаслівую будучыню народа і чалавецтва, колькі пра дабрабыт і лад ва ўласнай сям'і.

**Валянцін ЖДАНКО.**

***ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА***

# «ЧАЛАВЕК БЕЗ ПАШПАРТА...»

**5 кастрычніка наша газета надрукавала артыкул «Чалавек без пашпарта. Рэспубліка Беларусь супраць Луферава В. Я.». У адным, нават вялікім матэрыяле выкласці ўсе акалічнасці гэтага фантастычнага лёсу проста немагчыма, як і вось зараз пераказаць іх у двух словах. Такім чынам, з'явілася патрэба вярнуцца да размовы, нешта выкласці больш падрабязна, штосьці ўдакладніць.**

І яшчэ раз звярнуць увагу грамадскасці на тое, што зрабіла дзяржава (і менавіта яна) з адным з нашых суайчыннікаў — Валянцінам Луферавым...

①

Калі Луферава незаконна звольнілі, калі ён пачаў сваю вайну з ветранымі млынамі савецкай сістэмы, пракуратура рэспублікі за адным і тым жа нумарам паслала ў інстанцыі два абсалютна розныя адказы. Першы дакумент сцвярджаў, што сп. Луфераў звольнены правільна. Другі — накіраваны ў ЦК КПСС — гаварыў аб нечым зусім процілеглым. Што тут трэба ўдакладніць? Тое, што ўсё было зроблена тайна: у Маскву пайшоў правільны адказ, мясцовыя вышэйшыя інстанцыі атрымалі, груба кажучы, «туфту».

Тайна гэтая захоўвалася роўна 10 гадоў...

Валянцін Якаўлевіч разумее, што на ранейшай пасадзе яго не адновяць. Таму яго патрабаванне: аднавіць на падобнай і выплаціць грошы за вымушаны прагул, а таксама за маральныя страты. Колькі гэта будзе ў лічбавым выражэнні, я нават уявіць не магу.

Луфераў з'яўляўся на момант звальнення адзіным карміцелем сям'і. Яго дачка — інвалід I групы. Пераязджаць у забруджаную радыяцыяй вёску Луфераў не збіраўся — жыццё прымусіла. Як ён гаворыць, «цагляныя сцены ў гарадской кватэры неядомыя». Сам Луфераў чалавек хворы, страчана 75 працэнтаў зроку, з-за недаядання «нажыты» хваробы печані, страўніка, сэрца, кішэчніка, гастрыт, харчаванне яму прадпісана толькі дыетычнае. Што само па сабе гучыць смешна — Валянцін Якаўлевіч есць тое, што ёсць.

У такім «разабраным» стане Луфераў быў прымушаны здабываць хлеб свой надзённы. У першым матэрыяле ўпаміналася аб самагонаварэнні. Так і было. Праўда, трэба ўдакладніць: на працягу 1990—91 гг. Луфераў чатыры разы папярэджваў Вярхоўны Савет аб гэтым факце. Ён падкрэсліваў, што красці ці займацца рабаўніцтвам не будзе, а будзе выжываць вось такім экстравагантным спосабам. Яго, вядома ж, не пачулі.

Дакладней, пачулі, але вельмі своеасабліва: яму забаранілі выжываць і такім чынам. Што заставалася рабіць? Прасіць міласціну, чым Луфераў і заняўся. Яму забаранілі і гэта. Што застаецца? Паміраць галоднай смерцю? Але Луфераў не хоча.

②

Бацька Луферава загінуў на фронце. Уласна, па гэтай прычыне сын і атрымаў кватэру. Адыграла ролю і тое, што ён сам з'яўляецца інвалідам. З кватэры Луферава самым грубым чынам выкінулі.

Суд не звярнуў увагі ні на што. А між іншым, усё проста: сын даглядаў маці, інваліда I групы. Ужо адно гэта здымала ўсе пытанні. Плюс да гэтага, можна было падняць дакументы і даведацца, што пенсію Луфераў атрымліваў у Магілёве, там жа — талоны на прадукты харчавання. Як інвалід, ён карыстаўся паслугамі спецмагазінаў, што таксама можна было лёгка праверыць. Суд не стаў правяраць.

Зараз Валянцін Луфераў нават не можа падаць іск у судзе. Для гэтага трэба плаціць дзяржпошліну, а грошай, натуральна, няма. Даць магчымасць не плаціць пошліну маламаёмным людзям могуць, але для гэтага трэба мець паперу з райвыканкома, адпаведна — прапіску. Прапіскі ў Луферава няма.

Ніводзін райвыканком Рэспублікі Беларусь не прызнае яго сваім жыхаром. Так што падзагаловак першага артыкула — «Рэспубліка Беларусь супраць Луферава В. Я.» — зусім апраўданы. Супраць Луферава, выходзіць, сапраўды ўся дзяржава. Што выглядае смешна, а хутчэй — страшна. Крый Божа трапіць у гэтыя жорны...

Мне не дае спакою думка: з аднаго боку — хворы, пажылы, ушчэнт змучаны чалавек, з другога — уся дзяржава са сваім апаратам падаўлення. Ці не занадта гэта?

Па сутнасці, праблемы Луферава можа вырашыць толькі адзін чалавек — Прэзідэнт. Міністр фінансаў адказаў Луфераву, што вырашаць кадравыя пытанні ён не можа згодна з указам Прэзідэнта № 89, паводле якога фінорганы ўваходзяць у кампетэнцыю Прэзідэнта. Вось такім чынам, а болей мне нечага дадаць.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

***P. S.** Калі пісаліся гэтыя радкі, паступіў першы водгук. Ад былой жонкі Луферава, Галіны Пятроўны. Пісьмо я пераказваць не буду, бо тады, магчыма, Валянцін Якаўлевіч падасць на мяне ў суд. Але Галіна Пятроўна лічыць, што я ўмяшаўся ў яе асабістае жыццё, прынізіў яе годнасць. Калі Галіна Пятроўна лічыць сябе пакрыўджанай, то прашу ў яе прабачэння.*

*Сямейнае жыццё — штука складаная, і таму дадзім мужу і жонцы самім разабрацца ў сваіх узаемных прэтэнзіях. Па вялікаму рахунку, яны не вельмі стасуюцца з тэмай «Чалавек без пашпарта».*

*А тэма ўсё тая ж. Дапускаю, што Валянцін Якаўлевіч — не анёл (хто з нас можа так сябе назваць?), але факт: жывы чалавек пазбаўлены па сутнасці ўсіх грамадзянскіх правоў. Я зыходжу з гэтага.*

*Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ:*

# «Універсітэт культуры сёння — лакмусавая паперка, па якой можна вызначыць адносіны дзяржавы да культуры і адукацыі»

***Ядвіга Грыгаровіч — прафесар, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі адукацыі, рэктар Беларускага універсітэта культуры. З ёй гутарыць журналістка Таццяна АНТОНАВА.***

**— Ядвіга Дамінікаўна, вышэйшая навучальная ўстанова, якой вы кіруеце, існуе ўжо 21 год. Тры гады назад ёй быў нададзены статус універсітэта. Але ж за гэтыя тры гады ў нашым грамадстве адбыліся даволі значныя перамены. Цяжкасці перажывае нацыянальная культура. Як гэта адбілася на адносінах моладзі да адукацыі, да культуры?**

— Паспрабую акрэсліць сітуацыю. Калі меркаваць па конкурсах ва універсітэт, то за апошнія тры гады мы ўваходзілі ў тройку найбольш папулярных навучальных устаноў. Абітурыенты — падрыхтаваныя маладыя людзі, за плячыма ў якіх нярэдка не толькі сярэдняя школа, але і музычнае ці мастацкае вучылішча. Моладзь хоча вучыцца, яна імкнецца да культуры, да ведаў...

Але ж, з іншага боку, культура ў нашым грамадстве становіцца ўсё менш і менш даступнай для моладзі. Напрыклад, не многія могуць дазволіць сабе пайсці ў тэатр, на канцэрт. Да таго ж, закрыты цэлы шэраг устаноў культуры. Новая літаратура ў бібліятэкі не паступае, а некаторыя бібліятэкі ў правінцыі існуюць цяпер толькі на паперы.

**— А гэта якраз выпускнікі вашага універсітэта павінны працаваць у тых бібліятэках, кіраваць гурткамі мастацкай самадзейнасці. Такая сітуацыя не выбівае ў іх глебу з-пад ног, жаданне атрымаць прафесію, якая будзе незапатрабаванай у дзяржаве?**

— Мне не хацелася б адназначна адказваць на ваша пытанне. Падкрэслю, што ў Беларусі толькі тры вышэйшыя навучальныя ўстановы культурнага профілю. Універсітэт культуры — у пэўным сэнсе лакмусавая паперка, па якой можна вызначыць адносіны дзяржавы да культуры і адукацыі. Фінансуемся мы вельмі слаба. Кіраўніцтва універсітэта разумее, што ў Беларусі цяпер нялёгкая эканамічная сітуацыя — стаяць заводы, а фактычная лічба беспрацоўных у дзесяткі разоў перавышае афіцыйныя даныя... Прэтэндаваць у дадзеным выпадку на нейкія ідэальныя ўмовы не даводзіцца. Але пры ўсім пры тым мы выплочваем стыпенцыю студэнтам, зарплату выкладчыкам, і яшчэ нават эканомім, каб даць людзям хоць невялічкую прэмію.

**— Дык, мусіць, не такое ўжо і малое дзяржаўнае фінансаванне?**

— Справа ў тым, што ад беднасці мы сталі зарабляць грошы самі. Калі можна так сказаць, самафінансуемся. Першая крыніца даходу — платнае навучанне студэнтаў. Што гэта значыць? Гэта тая катэгорыя студэнтаў, што пасляхова здалі экзамены, але не прайшлі па конкурсу. Мы прымаем іх на вучобу, але за плату. Летась у нас было залічана ва універсітэт трыццаць працэнтаў «платнікаў».

Другая крыніца даходу — выступленні нашых мастацкіх калектываў, продаж мастацкіх вырабаў, здача памяшканняў у арэнду...

**— Дык у чым праблема?**

— У жорсткай рэгламентацыі дзяржавай выкарыстання заробленых універсітэтам грошай. Паводле апошняй жнівеньскай пастановы, сродкі, якія мы атрымліваем ад студэнтаў, што аплачваюць сваю вучобу, павінны накіроўвацца на аплату працы выкладчыкаў. Я разумею высакароднасць, гуманізм такой пастановы. Але калі мы не можам выкарыстаць грошы на тое, што лічым патрэбным, то які сэнс у такім самафінансаванні? Універсітэту патрэбныя тэхнічныя сродкі, неабходна адрамантаваць будынак, заплаціць за мыццё бялізны, за санітарныя мерапрыемствы.

Я мусіла пісаць у міністэрства ліст з просьбай дазволіць нам у парадку выключэння выкарыстоўваць заробленыя універсітэтам грошы на гаспадарчыя патрэбы. Нават з той сумы, што мы атрымліваем як арэндную плату за свае памяшканні, сорак працэнтаў чамусьці павінны накіроўваць на рахунак Мінкульта.

**— Даволі дзіўная сітуацыя: адной рукой дзяржава дае, а другой — забірае...**

— Такі жорсткі кантроль з боку дзяржавы за ВНУ незразумелы. Лічыць, што ўсе кіраўнікі — патэнцыяльныя зладзеі, махляры — таксама не пазіцыя.

**— Ядвіга Дамінікаўна, работнік сферы культуры ў наш час — зусім не прэстыжная прафесія. Цяпер «каціруюцца» правазнаўцы, эканамісты... І тым не менш, ва універсітэт культуры вялікія конкурсы. Гэта ў нечым парадаксальная з'ява. Якая ж матывацыя выбару прафесіі абітурыентамі універсітэта культуры?**

— Як вядома, многія заканчваюць музычныя і мастацкія школы, вучылішчы. Якім бачыць свой шлях гэтая моладзь? Можна паступіць у кансерваторыю ці ў акадэмію мастацтваў. Але ў гэтыя ўстановы набіраюць штогод мінімальную колькасць студэнтаў — 5—8 чалавек на курс. Дыплом кансерваторыі не гарантуе, на жаль, ні прыстойнага заробку, ні месца працы ў тым ці іншым мастацкім калектыве. А ва універсітэце культуры можна атрымаць двайную спецыяльнасць. Скажам, і музыканта, і менеджэра, спецыяліста па выхаванню сродкамі мастацтва. Маладыя людзі хутка зарыентаваліся і пачалі паступаць да нас. Тут яны атрымліваюць выдатную універсітэцкую гуманітарную адукацыю і спецыяльнасць, якая дасць магчымасць выжыць у даволі няпростых сучасных варунках.

І яшчэ я хацела б дадаць вось такую дэталь. Моладзь цягнецца да духоўнасці, да магчымасці мець інтэлігентную прафесію, скажам так, далучыцца да інтэлігенцыі.

Інтэлігенцыя — гэта найбольш чулая, разумная, адукаваная, выхаваная, культурная частка грамадства. На інтэлігенцыю павінна абапірацца дзяржава, калі яна хоча дасягнуць вяршынь эканамічнага і культурнага развіцця.

*Дзмітрый МАРАЧ:*

# «БЕЛАРУСЬ ПАСТУПОВА ПЕРАТВАРАЕЦЦА Ў ТРАНЗІТНА-ПЕРАВАЛАЧНУЮ БАЗУ»

***Калі не так даўно мы ганарыліся гасцціннай і спакойнай Беларуссю, ужываючы пры гэтым адпаведныя эпітэты, то сёння ўсё часцей і часцей можна пачуць больш жорсткае — «накапляльнік». І не выпадкова. Зрэшты, аб гэтым — наша гутарка з намеснікам міністра працы, кіраўніком Дзяржаўнай міграцыйнай службы Рэспублікі Беларусь Дзмітрыем МАРАЧАМ.***

**— Дзмітрый Іосіфавіч, як бы вы ацанілі цяперашнюю міграцыйную абстаноўку ў нашай краіне?**

— Як вельмі складаную. Зніжэнне жыццёвага ўзроўню і рост беспрацоўя, узнікненне ваенных канфліктаў, нарэшце, змяненне традыцыйных міграцыйных патокаў, якое адбываецца ў свеце пасля распаду СССР, — усё гэта прывяло да масавага і часцей за ўсё нядобраахвотнага перамяшчэння людзей у краінах СНД і суседніх з імі дзяржавах. На жаль, з-за свайго геапалітычнага становішча, у эпіцэнтры гэтых праблем апынулася Рэспубліка Беларусь.

Калі ў 90-я гады рэгіянальны характар міграцыі ператварыўся ў міжнародны, наша краіна стала своеасаблівым перакрыжаваннем вымушаных і нелегальных перамяшчэнняў. Толькі па ўлічаных даных, за 1990—1995 гг. у рэспубліку з 10-мільённым насельніцтвам імігрыравала амаль 544 тысячы чалавек, тады як выехала з краіны — толькі 436 тысяч. Такім чынам, за гэты час у выніку міграцыі наша насельніцтва павялічылася на 108 тысяч чалавек. Зараз на Беларусі пражываюць каля 30 тысяч былых грамадзян СССР, якія хадайнічаюць аб прадастаўленні ім статусу бежанца. У краіне шукаюць прытулку больш як 4 тысячы асоб з Афганістана, Эфіопіі, Ірана, Пакістана, Балівіі, Кітая, Самалі і іншых дзяржаў, а таксама каля тысячы в'етнамцаў, якія працавалі ў нас па кантрактах былога СССР і якія зараз не жадаюць вяртацца на радзіму.

Па-ранейшаму вельмі непакоіць так званая «экалагічная міграцыя» — вынік катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. У забруджанай зоне (амаль чвэрць усёй тэрыторыі рэспублікі) апынуўся амаль кожны пяты яе жыхар. Гэта, дарэчы, 2,2 млн. чалавек, у тым ліку 500 тысяч дзяцей. За дзесяць гадоў з зоны радыеактыўнага забруджвання перасялена звыш 130 тыс. чалавек. Страты, панесеныя нашай дзяржавай, склалі ўжо каля 235 мільярдаў долараў ЗША. І гэта лічба яшчэ не канчатковая.

Нарэшце, асаблівую трывогу апошнім часам, выклікае праблема нелегальнай міграцыі. Не сакрэт, што геапалітычнае становішча Беларусі, «празрыстасць» яе ўсходняй і паўднёвай межаў сталі прычынай масавага прытоку ў рэспубліку незаконных імігрантаў з розных дзяржаў, якія ставяць сваёй мэтай праз тэрыторыю нашай краіны пранікнуць далей — у Заходнюю Еўропу, ЗША і Канаду. Таму сёння рэспубліка паступова ператвараецца ў небяспечную транзітна-перавалачную базу нелегальных мігрантаў, якія, не здолеўшы трапіць у жаданыя для сябе краіны, асядаюць на нашай тэрыторыі ў чаканні свайго часу перапраўкі за мяжу. Паводле ацэнак МУС, на пачатку гэтага года ў Беларусі знаходзілася каля 100 тысяч нелегалаў, што прыбылі з краін СНД, Афрыкі, Блізкага і Сярэдняга Усходу. Зараз іх яшчэ больш — каля 170 тысяч.

Так атрымалася, што сёння нашай краіне выпала стаць сапраўдным бар'ерам і стрымліваць патокі нелегальных мігрантаў на Захад. Рабіць гэта з года ў году усё цяжэй. Калі ў 1992 годзе пры спробах незаконнага перасячэння заходняй мяжы беларускія пагранічнікі затрымалі 484 іншаземцаў, то ў 1995 годзе — у 10 разоў болей — амаль 5 тысяч. Значна павялічылася колькасць спроб дзёрзкага прарыву на Захад. З'явіліся арганізаваныя злачынныя групоўкі, якія маюць добра наладжаныя міжрэгіянальныя сувязі, якія ператварылі «кантрабанду» мігрантаў у прыбытковы бізнес.

Дарэчы, сёння ва ўсім свеце міграцыя ацэньваецца як з'ява глабальная, і ніводная дзяржава (у тым ліку Рэспубліка Беларусь) не ў стане справіцца з ёй самастойна. Таму ў нас ідзе актыўная работа па заключэнню двухбаковых міжнародных пагадненняў, якія датычацца пытанняў вымушанай і нелегальнай міграцыі.

**— Аднак праблема нелегальнай міграцыі — гэта, відаць, не толькі праблема парушальнікаў дзяржаўнай мяжы. Вы прыводзіце лічбу — 170 тысяч. Што ўяўляюць сабой гэтыя людзі?**

— Бяда ў тым, што замежныя грамадзяне, якія апынуліся на тэрыторыі Беларусі, з'яўляюцца далёка не той адукаванай і высокакваліфікаванай працоўнай сілай, якая ў прынцыпе патрэбна любой краіне. Усё якраз наадварот. Агульнавядома, што многія нелегалы парушаюць заканадаўства, учыняюць злачынствы, вядуць антысацыяльны лад жыцця. Так, у 1995 годзе органамі МУС зарэгістравана 1830 злачынстваў і 81.609 адміністрацыйных правапарушэнняў, учыненых гэтай катэгорыяй асоб, у тым ліку 17 забойстваў, дзесяткі цяжкіх цялесных пашкоджанняў, згвалтаванняў, сотні разбойных нападаў, рабаўніцтваў, крадзяжоў асабістай і дзяржаўнай маёмасці. Вядома таксама, што многія з прыбыўшых у Беларусь нелегалаў знаходзяцца ў сферы ўплыву міжнароднай наркамафіі, рознага кшталту тэрарыстычных арганізацый. Памежнікамі і праваахоўнымі органамі Беларусі штогод канфіскуецца на мяжы вялікая колькасць агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў, наркатычных і атрутных рэчываў.

Усё пералічанае негатыўна ўплывае на сацыяльна-эканамічнае становішча ў нашай краіне, абвастрае крымінагенную сітуацыю, спрыяе распаўсюджванню небяспечных заразных хвароб і СНІДу, уяўляе сабой рэальную пагрозу бяспецы дзяржавы.

Разам з тым прыходзіцца канстатаваць: адсутнасць доўгі час заканадаўчай і нарматыўна-прававой базы, якая б вызначала ўмовы і парадак дэпартацыі замежных грамадзян, што парушылі беларускае заканадаўства, стала прычынай таго, што ў 1991 годзе з Беларусі ў прымусовым парадку былі выдвараны толькі 34 іншаземцы, у 1992-м — 7, у 1993-м — ніводнага, а ў 1994 і 1995 гадах — па чацвёра грамадзян замежных краін.

**— Аднак лёд нарэшце крануўся. Нядаўна Вярхоўны Савет прыняў у першым чытанні прапанаваны яму дзяржаўнай міграцыйнай службай праект закона аб іміграцыі. Цікава, ці адлюстраваны ў ім даволі папулярныя ў апошнія гады на Захадзе прынцыпы палітыкі «нулявой міграцыі»?**

— Безумоўна, такі падыход можна лічыць прымальным, але разам з тым у нашых умовах і зусім нерэальным. Таму іміграцыю забараніць нельга. Але яе можна і патрэбна рэгуляваць.

Галоўнае, што хацелася б адзначыць у законе, — гэта ўвядзенне квоты на іміграцыю. Прычым 70 працэнтаў яе ўсталёўваецца для імігрантаў, якія жадаюць прыехаць да нас, каб уз'яднацца са сваімі сем'ямі і сваякамі, 20 працэнтаў — для імігрантаў — рабочых і прадпрымальнікаў, 10 працэнтаў — для іншых імігрантаў. Акцэнт таксама зроблены на прыцягненне ў краіну асоб з незвычайнымі, выключнымі здольнасцямі.

З улікам сусветнага вопыту, усе ўязныя візы будуць падзелены на іміграцыйныя (для іншаземцаў, якія пераязджаюць на сталае жыхарства) і неіміграцыйныя (для тых, хто прыедзе да нас на пэўны час — напрыклад, на працу). Гэта дазволіць наладзіць жорсткі кантроль за ўездам і знаходжаннем усіх іншаземцаў на тэрыторыі краіны.

Вызначаны і парадак прадастаўлення статусу імігранта. Гэты статус могуць атрымаць іншаземцы, якія накіруюць адпаведную заяву і неабходныя дакументы (пашпарт, пасведчанне аб шлюбе, медыцынскую даведку, даведку аб адсутнасці судзімасці і г. д.) у бліжэйшае дыпламатычнае прадстаўніцтва або ў консульскую ўстанову Рэспублікі Беларусь за мяжой. Перавагу пры атрыманні дазволу на ўезд у нашу краіну будуць мець муж (жонка) і дзеці грамадзян Рэспублікі Беларусь, муж (жонка) і дзеці імігрантаў, непрацаздольныя бацькі, браты і сёстры грамадзян Беларусі і імігрантаў, высокакваліфікаваныя работнікі, а таксама бізнесмены і прадпрымальнікі, якія гарантуюць інвесціраванне ў нашу эканоміку пэўных фінансавых сродкаў. Істотна, што калі размова ідзе аб уз'яднанні сям'і, сваякі імігранта павінны стаць гарантам яго матэрыяльнага і жыллёвага забеспячэння на Беларусі. І яшчэ. Калі іншаземец пакутуе ад небяспечных інфекцыйных захворванняў, з'яўляецца псіхічна хворым, хранічным алкаголікам ці наркаманам, калі ён з'яўляецца прафесіянальным жабраком, калі займаецца прастытуцыяй, гандлем зброяй і наркотыкамі, нарэшце, калі ён уваходзіў ці ўваходзіць у састаў тэрарыстычных ці фашысцкіх арганізацый, то статус імігранта ён не атрымае ні ў якім разе. Гэтак жа як іншаземцы, якія маюць на радзіме не знятую ці непагашаную судзімасць.

**— Мы неяк абышлі увагай іншую, магчыма, не такую маштабную, але не менш вострую праблему — бежанцаў. Дарэчы, закон аб іх павінен дзейнічаць яшчэ з сярэдзіны мінулага года...**

— Так, гэта сапраўды асаблівы клопат нашай дзяржавы. Сёння робяцца пэўныя захады як з боку ўрада, так і з боку Дзяржаўнай міграцыйнай службы, каб закон пачаў нарэшце працаваць. Таму канкрэтных вынікаў чакаць засталося нядоўга.

**Сяргей ГРЫБ.**

ЦЭНЫ

# ЗАРПЛАТА БЕЛАРУСА: або есці, або апранацца

**«Усё цячэ, усё мяняецца» — гэтая старая мудрасць як найлепш адлюстроўвае тое, што адбываецца сёння ў нашай краіне з цэнамі. На жаль, яны маюць адну непрыемную асаблівасць — калі рухаюцца, дык выключна ўгору. Асабліва выразна гэтая тэндэнцыя прасочваецца на сталічных рынках...**

Закончылася лета, а разам з ім знікла і магчымасць падтрымаць свой небагаты сямейны бюджэт больш-менш таннай агароднінай. Цэны на яе ўжо вельмі красамоўна нагадваюць нам аб тым, што на двары позняя восень: так, кілаграм агуркоў каштуе сёння 32—40 тыс. руб., памідораў — 19—26 тыс. руб., салодкага перцу — 25—40, пятрушкі — 40—50, кропу — 45—55, салаты — 80—100 тыс. рублёў. Таму самы час задумацца над тым, каб праглынуць нешта больш істотнае. А гэта няпроста, таму што мясная прадукцыя даражэе на вачах: калі цэны на ялавічыну яшчэ неяк трымаюцца на ранейшым узроўні (у дзяржгандлі — 29—40 тыс. руб. за кг, а на рынку — 30—55 тысяч рублёў за кг), дык на свініну яны ўпарта, літаральна кожны тыдзень «паўзуць» угору. Цяпер магазінная цана (48—56 тыс. руб. за кг) імкліва даганяе рыначную (38—80 тыс. руб.) . Тое ж датычыцца і мяса птушкі: пры аднолькавай цане (у 38—41 тыс. руб. за кг) пакупнік усё ж аддае перавагу рынку, дзе выбар намнога большы. За салам у дзяржгандаль таксама ніхто не ходзіць, таму што магазіннае салёнае сала па 55—60 тыс. руб. за кг і дамашняе на рынку па той жа цане моцна адрозніваюцца сваёй якасцю. Дарэчы, на базарах у раённых цэнтрах ўся мясная прадукцыя танней на 10—20 тысяч рублёў.

Яшчэ зусім нядаўна на сталічнай Камароўцы побач з машынамі, якія гандлявалі яйкамі, выстройваліся чэргі. Цяпер неабходнасць ісці па танныя яйкі на рынак адпала: цана ў 12,5—13 тыс. руб. за дзесятак яек устанавілася як там, так і ў дзяржгандлі. Дарэчы, у спецыялізаваных магазінах тыпу «Пеўнік» яна нават перасягнула гэты рубеж.

На пытанне «Чаму ўздымаеце цэны?» у гандлёвых радах сталічнага харчовага рынку ўсміхаюцца: «Долар расце, ад яго і танцуем!» Чаму на рынку паважаюць долар — зразумела, але вось чаму дзяржаўны гандаль не адстае ад яго — не зусім. Зарплату ж насельніцтву ў нашай рэспубліцы пакуль плацяць беларускімі рублямі. Згодна з данымі Мінстата, у верасні памер сярэдняй заработнай платы складаў 1.350.000 рублёў (у жніўні — 1.291.000 рублёў). Калі абапірацца на гэтую лічбу, дык атрымліваецца, што рэальныя штомесячныя даходы нашага насельніцтва вагаюцца ў межах 60—65 долараў, г. зн. у пераліку на «зялёныя», у сувязі з яго пастаянным ростам, мы атрымліваем з кожным месяцам усё менш і менш. А што тады можна гаварыць пра пенсіянераў з іх 20—25 доларамі на адну душу? Шэраг тавараў імпартнай вытворчасці (цыгарэты, спіртное, садавіна, адзенне) ужо стаў недаступны для большасці беларускіх пакупнікоў. І далёка не кожны здольны сёння не толькі апрануцца, але і набыць сабе з зарплаты, тым больш з пенсіі, хоць бы адну рэч без пагрозы застацца галодным. Мяркуйце самі: цана на пару ботаў цяпер вагаецца ад 40 да 130$, світэр ці кофту — ад 20 да 40$, на зімовае паліто — ад 50$.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# БЫВАЙ, ІНСТРУКТАР?

**Як стала вядома «Звяздзе», сёння ў сістэме дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ прафсаюзаў займаюцца каля 40 тысяч дзяцей па 38 відах спорту. Штогод у іх рыхтуецца каля 200 майстроў спорту і больш як 50 майстроў спорту міжнароднага класа.**

Разам з тым прыходзіцца канстатаваць: паступова спыняецца фізкультурна-аздараўленчая работа на прадпрыемствах. Толькі за першае паўгоддзе 1996 года колькасць інструктараў-метадыстаў па спорту скарацілася тут амаль удвая. Прычына відавочная: недахват сродкаў. Так, сёння на аздараўленне насельніцтва выдаткоўваецца ўсяго 1,5 працэнта ад фонду аплаты працы.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ПЫТАЛЬНІК

### ДЗЕ ЛЕЧАЦЬ АД ЗАІКАННЯ?

**«Звязда», я нядаўна пачуў, што ў Мінску недзе лечаць ад заікання. Ці не маглі б вы падказаць адрас гэтай установы, а таксама як туды трапіць. Ці можна за адзін месяц пазбавіцца ад заікання высокай ступені, якое я атрымаў у шасцігадовым узросце? Магчыма, можна лячыцца самастойна? У мяне хутка абарона дыплома, дапамажыце, калі ласка. Загадзя вам удзячны.**

**Сяргей, 18 гадоў,**
**Гродзенская вобласць.**

**Паважаная рэдакцыя! Надрукуйце, калі ласка, у газеце адрас месца, дзе лечаць ад заікання. Мой сын вучыцца і яму вельмі цяжка. Мясцовая паліклініка ніякіх накіраванняў не дае.**

**А. СІДАРЭНКА, г. Валожын.**

У краіне існуе адзінае месца, дзе лечаць ад заікання і дзяцей і дарослых — Рэспубліканскі цэнтр паталогіі слыху, голасу і мовы пры Мінскай гарадской оталарынгалагічнай бальніцы. Як паведаміла рэдакцыі загадчыца псіханеўралагічнага аддзялення па лячэнню заікання Вольга Канстанцінаўна Кісялёва, каб трапіць у цэнтр, трэба загадзя запісацца на прыём, бо існуе вялікая чарга. Дарослых лечаць. напрыклад, два разы на год. Зараз якраз скончылася іх чарга і да лютага наступнага года лячэнне будуць праходзіць дзеткі. Але шанц трапіць на лячэнне без чаргі ёсць заўсёды — спецыялісты разглядаюць кожны выпадак звяртання хворых асобна. Пасля абследвання ў лагапеда і неўролага вам прызначаюць курс лячэння. Ён можа быць стацыянарным (на працягу месяца) і амбулаторным — у залежнасці ад ступені захворвання. Усе паслугі бясплатныя. Акрамя вузкіх спецыялістаў з пацыентамі працуюць псіхолагі. Як зазначыла Вольга Канстанцінаўна, паляпшэнне ў выніку лячэння ёсць заўсёды, многія вылечваюцца за адзін раз. Пры неабходнасці курс можна паўтарыць. Звяртацца трэба па адрасу: г. Мінск, вул. Сухая, 8; тэлефоны рэгістратуры: 20-85-24, 20-84-50.

### МАЛАДЫМ НАСТАЎНІКАМ БЫЦЬ НЯПРОСТА

**Паважаная «Звязда»! У гэтым годзе мая дачка пасля заканчэння педвучылішча паехала працаваць у вёску. У сувязі з гэтым у нас узнікла шмат пытанняў. Па-першае, ці аплачваюцца цяпер студэнтам-завочнікам экзаменацыйныя сесіі ў ВНУ? Па-другое, ці выплачваюцца «пад'ёмныя» тым, хто паехаў працаваць у вёску не па накіраванню? Па-трэцяе, ці на самай справе настаўнікам «паздымалі» льготы па аплаце кватэры (інтэрната), паліва, электрычнасці?**

**В. М. УЗАРЭВІЧ, г. Ліда.**

Як паведамілі ва ўпраўленні па рабоце з кадрамі і прававому забеспячэнню Міністэрства адукацыі і навукі РБ, для студэнтаў ВНУ завочнай і вячэрняй формы навучання, якія паступілі ў навучальныя ўстановы ў 1993 годзе і пазней, пры аплаце экзаменацыйных сесій дзейнічае наступнае правіла: за работнікам агульнаадукацыйнай школы, які сумяшчае работу з навучаннем і пасьпяхова здае экзамены, сярэднямесячная заработная плата захоўваецца на час здачы экзаменацыйнай сесіі ў тым выпадку, калі ён быў накіраваны на вучобу непасрэдна той навучальнай установай, дзе ён працуе, або гэта прадугледжваецца калектыўным дагаворам.

«Пад'ёмныя» ж грошы сапраўды выплачваюцца пасля заканчэння вучобы толькі тым маладым спецыялістам, якія паехалі працаваць па накіраванню.

Што датычыць апошняга вашага пытання, то ў Міністэрстве адукацыі нам пацвердзілі, што на сённяшні дзень часова прыпынена дзеянне льгот настаўнікам сельскіх школ па аплаце кватэры, паліва і святла. Аднак, наколькі зацягнецца гэта «часовасць», пакуль невядома.

### КАЛІ ІСЦІ НА ПЕНСІЮ?

**Паважаная «Звязда»!**

**Маё пытанне напэўна зацікавіць многіх. Я працую даяркай 22 гады і маю права на льготную пенсію, але я яшчэ нарадзіла і выгадавала пяцёра дзяцей. Таму мне вельмі хацелася б ведаць, у колькі гадоў я змагу пайсці на пенсію.**

**Р. КУДРАШОВА, Лагойскі р-н.**

Згодна з Законам РБ «Аб пенсіённым забеспячэнні», жанчыны, якія працуюць даяркамі ў калгасах, саўгасах, іншых прадпрыемствах сельскай гаспадаркі, пры стажы ўказанай работы не менш як 20 гадоў і пры ўмове выканання ўстаноўленых нормаў абслугоўвання, маюць права на пенсію па ўзросту ў сувязі з асаблівымі ўмовамі працы па дасягненні 50 гадоў .

Таксама на Вас распаўсюджваецца і дзеянне артыкула 19 Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні», у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «Жанчыны, якія нарадзілі пяцёра і больш дзяцей і выхавалі іх да 8-гадовага ўзросту, маюць права на пенсію па ўзросту па дасягненні 50 гадоў (а таксама жанчыны, у якіх на гэты час пятае дзіця не дасягнула 8 гадоў) і пры стажы работы не менш як 15 гадоў. Такім чынам, ці як даярка, ці як мнагадзетная маці вы можаце пайсці на пенсію ў 50 гадоў.

Але ж існуе яшчэ адзін сур'ёзны нюанс: у сваім пісьме Вы, на жаль, не паведамілі нам узрост сваіх дзяцей, але майце на ўвазе, што жанчыны, якія нарадзілі пяцёра і больш дзяцей і выхавалі іх да 16-гадовага ўзросту, пры стажы работы ў калгасах, саўгасах і іншых прадпрыемствах сельскай гаспадаркі непасрэдна ў вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі не менш як 10 гадоў (без заліку ў стаж часу догляду за дзецьмі), маюць права на пенсію незалежна ад узросту.

## РЭПАРЦЁР

# ПОПЕЛ СВЯТЫНІ...
# У чыіх сэрцах? На чыім сумленні?

*«Сённяшняе Заслаўе — той самы Ізяслаўль, горад, пра які згадвае ў сваім летапісе Нестар... Адзінае ўпрыгажэнне Заслаўя ў сённяшні час складае драўляная царква ў імя Праабражэння Господняга, пабудаваная, як бачна з метрыкі, у XV стагоддзі. Стыль яе даволі адрозны ад старых цэркваў: яна мае форму старажытнага замка з вежамі і шпіцамі...»*

**(Павел Шпілеўскі. 1854 год. Часопіс «Современник»).**

**«КАЛЯ 11 вечара мы вярталіся ад сваякоў з другога канца Заслаўя. Убачылі, ідучы па дарозе. Храм палаў, як паходня, а чарапіца страляла, як ірвуцца снарады. Было не страшна — жудасна, бо гарэла нават не хата, а святыня...»**

**(З расказу жыхаркі Заслаўя пра падзеі 19 кастрычніка 1996 г.)**

... У аўторак ранкам усё яшчэ пахла гарэлым. Накрапваў дождж. Завіхаліся людзі. Было холадна. «Божа, чым я магу дапамагчы?» — пытала, ледзь не плачучы, бабулька на лавачцы. Ей сказалі: «Чым ты дапаможаш? Малілся...» Побач з кабетай ляжалі кіёк і мыліца.

«Прабачце, але ўнутр нельга, — спыніў нас пажарнік у дзвярным праёме. — Следства, экспертыза...» Унутры некалькі мужчын у касках разбіралі па кавалачку тое, што засталося ад аздобы царквы і ўвогуле ўсяго, што было за белымі каменнымі мурамі.

Пастаяць ля іх задраўшы галаву мне таксама не далі. «Асцярожна, — сказаў, выходзячы, чалавек у касцы, — вы стаіце занадта блізка...» Не паспявае мільгнуць думка, як з другой сцяны нешта ляціць і б'ецца на кавалкі. Так, дробязь: чарапіца, кавалак штукатуркі. «Што я вам кажу?!» — погляд пажарніка.

Пакуль адыдзем і глянем на месца здалёк.

### АНТУРАЖ ДНЯ

Храм Праабражэння Гасподняга знаходзіцца ў даволі ўтульным месцы, з усіх бакоў акружаны парослымі травой старымі землянымі валамі. Валы гэтыя дазваляюць бачыць з аддегласці толькі вежу і верхнюю частку будынка. (Як адзначыць пазней бацюшка, айцец Мікалай, гэта таксама магло адыгрываць пэўную ролю ў тым, што адбылося.) Каля рэчкі, за адным з узгоркаў, ляжыць вялікі камень. «На гэтым месцы ў 1941—1944 годзе праводзіліся масавыя расстрэлы фашыстамі мірных жыхароў і ваеннапалонных». Сюды прыносілі кветкі. Зараз на камені — абгарэлыя старонкі кніг, пераважна «Дзіцячай бібліі». Старыя кажуць: усе войны царква стаяла, фашысты і тыя не чапалі. А цяпер...

Каля самога храма ёсць яшчэ сляды гісторыі. Пліта, напрыклад, і каменны крыж. «Царю-освободителю благодарные крестьяне Юрьевой, — ледзь разабрала я. — 1861—1911 г., 19 февраля». Таксама дзевятнаццатага! Зрэшты, не будзем кідацца ў містыку. Проста зверху на пліце ляжыць невялікі купал з крыжам. Сёння яны — амаль без бляску і невызначальнага колеру.

Мужчыны выносяць адкапаны ў абломках і попеле звон. Закураны, чыгунны, ён раскалоўся на дзве часткі. Знайшлі большую з іх. Гэта малы звон, ёсць яшчэ вялікі, але да яго пакуль не дакапаліся. Гэта павольная праца, бо ўсё ў кучы смецця (аж слова гэта страшна пісаць, але так гэта выглядала) разбіраецца «па костачцы», і эксперты з пажарнікамі нагадваюць археолагаў. Жанчыны выносяць уцалелыя свечкі. Спрабуюць прымацаваць да прыстаўленых да сцяны абпаленых дзвярэй абломак чорнага падсвечніка. Беражліва аддзяляюць старонкі кніг — то амаль новых, то даўно пажаўцелых ад часу... І пяшчотна, як жывых пакутнікаў, выціраюць абразы. Шмат, шмат абразоў! Са счарнелымі ў полымі краямі. Шкло пабітае, сям-там уцалелі рамкі.

Ні ў аднаго абраза не абгарэў лік!

### НОЧ НА 20-Е

— Эх, відаць, мала мы маліліся! Ці проста мала заходзілі сюды раней! — раптам кажа жанчына, адна з тых, хто прыйшоў на пажарышча ў свой выхадны дзень і зараз прыбірае царкву і тэрыторыю наўкол ад смецця.

Царква гарэла на працягу дзевяці гадзін. Яе не маглі патушыць. Людзі мітусіліся з плачам і крыкамі. Сабралася шмат народу. «Многа вельмі моладзі было, — успамінаюць жанчыны, — і ведаеце: ніколі мы не бачылі ў нашых маладых такіх сур'ёзных твараў!» Нехта дадаў, што, калі б знайшлі тых, хто гэта зрабіў, з імі маглі б расправіцца ў той жа момант. Вялікімі сінімі літарамі на белай сцяне храма нехта вывеў: «Смерць хрысціянам». І знак перамогі сіл зла над дабром.

Чуткі пра тое, што нехта паведаміў пажарным па тэлефоне аб пажары ў іншым месцы, самі пажарнікі ў адказ на маё пытанне абверглі: «Тут блізка, мы прыехалі праз 10 хвілін, але ўжо было цяжка нешта ўратаваць.» Людзі некалькі разоў гаварылі, што спачатку шукалі ваду і не адразу знайшлі люк, куды трэба падключыць шлангі. І што патушылі царкву пасля прыбыцця пажарнікаў аж з Фаніпаля.

Вось вам і 19-е! Субота, ноч на нядзелю...

Ноччу тэлефанавалі ў праваслаўную епархію. У мітусні і трывозе нехта нешта пераблытаў, і пажар у паведамленні быў названы словам нейтральным па эмоцыях і маштабах — «узгаранне».

### «АНТУРАЖ» ГІСТОРЫІ

Першы ўладальнік храма захапляўся кальвінізмам. Потым тут маліліся каталікі і жылі манахі. Апошнія амаль 200 гадоў святыня была праваслаўнай. Каменны будынак, як ужо згадвалася, быў збудаваны на фундаменце драўлянага, дзе яшчэ каталікі зрабілі званіцу... Слухаючы расказ настаяцеля царквы, святара Мікалая Мазгова, я думала: няважна, хто і калі тут маліўся, галоўнае — Богу. Але любы чалавек, калі ён сапраўды верыць у якога-небудзь свайго Бога, ніколі не змог бы падняць руку на святыню. Няхай нават і не гэтую, і не сваю. Нават калі б не верыў, а проста шанаваў гісторыю, памяць продкаў. Няхай нават не сваіх продкаў, а проста памяць беларускай зямлі...

У XX стагоддзі храм гэты спрабавалі зачыніць. З трэцяй спробы, у 59-м годзе, гэта ўдалося. Спачатку тут былі склады. Потым на гэта звярнулі ўвагу ў Міністэрстве культуры, і будынак стаў музеем народных рамёстваў. У 89-м праваслаўныя вернікі сталі прасіць улады вярнуць ім царкву, што і было зроблена ў 90-м...

Мы пазнаёміліся з бабуляй на лаўцы. «Згінаюся, а ў вачах цямнее, — паскардзілася яна. — Чакаю ўнучка свайго, пасля школы прыйдзе сюды». І распавяла мне, як пасля вяртання царквы на вежы ўмацоўвалі званы. «Як сталі вялікі звон падымаць, пачалася раптам страшэнная бура, — успамінае Алена Паўлаўна. — Стала цямнець, паліў дождж, а вецер ледзь не зносіў людзей з лесвіц. А як павесілі звон, то і бура з дажджом скончыліся, і так стала светла, нібыта сам Бог дапамог і неба ўзрадавалася».

Я спытала ў айца Мікалая, што за «эпідэмія» такая напаткала праваслаўныя храмы. Так, быў не вельмі даўно выпадак вандалізму на мінскай Кальварыі, у касцёле, але ж не паспеў забыцца «гучны» выпадак са Свята-Духавым саборам, як падобны «почырк» — у Заслаўі. І, здаецца, крадзяжы абразоў у Жодзіне.

— Справа не ў тым, якой канфесіі храмы, — лічыць айцец Мікалай. — Рэальна праваслаўе сёння з'яўляецца найбольш уплывовай рэлігійнай канфесіяй на Беларусі, дзе каля 70 працэнтаў веруючых — праваслаўныя. Невядомыя злачынцы пачалі са Свята-Духава сабора, які з'яўляецца цэнтрам згуртавання хрысціянства. Яны пачалі, хаця там была сігналізацыя, вартаўнік унутры знаходзіўся. Яны бачылі магчымасць быць злоўленымі і немагчымасць нанесці амаль ніякай шкоды, акрамя духоўнага ўрону. А тут... У нас была толькі сігналізацыя, а стаім мы на водшыбе. Тым больш — чаму менавіта Заслаўе? Гэта быў першы на Беларусі хрысціянскі горад, які заснаваў і назваў імем свайго сына Ізяслава кіеўскі князь Уладзімір, хрысціцель Кіеўскай Русі. Адсюль пайшло хрысціянства на зямлі беларускай. Ізяслаў жыў тут, потым стаў князем Полацкім, а яго маці Рагнеда і пасля гэтага тут жыць засталася... І ён быў не насаджальнікам хрысціянства, а міратворцам, які пераконваў людзей, з любоўю ставіўся да іх... Людзі бачылі, дзе ісціна, дзе сутнасць.

### ДЗЕ СУТНАСЦЬ?

Прыехаўшыя на месца пры нас работнікі міліцыі адразу адмялі пытанне аб магчымых версіях: «Пакуль ад каментарыяў лепш устрымацца. Яшчэ няма заключэння экспертаў, яно будзе не раней як тыдні праз два». Выказаную пажарнымі думку пра ўзгаранне ад электраправодкі лепш назваць гіпотэзай, якая неяк не стасуецца з надпісам на сцяне. Пераважная большасць прысутных (і непрысутных таксама) прыпісвае падпал храма сатаністам. Гадаць даводзіцца толькі пра тое, як яны гэта ўчынілі: кінулі нешта праз акно ці пранікі нейкім чынам унутр будынка? Апошняе пытанне актуальнае і ў выпадку, калі «аўтары» злачынства былі зусім не сатаністамі: нельга выключаць і магчымасць нейкай жудаснай правакацыі... Але хто, для чаго і як — гэта пытанні, над якімі яшчэ працаваць следчым. Застаецца спадзявацца на іх плённую працу.

Колькі будзе каштаваць аднаўленне храма, тады, у аўторак, ніхто не браўся ацаніць дакладна. Улічваючы, што ўсё згарэла ўнутры і разбураны дах, — нямала.

... А да царквы ўсё ішлі людзі. Прахожыя ў час абедзеннага перапынку. Першы клас з настаўніцай пасля ўрокаў. Каб параіцца, што рабіць, ці проста сваёй прысутнасцю далучыцца да агульнай бяды. Некаторыя хрысціліся... Лікі святых глядзелі з маўклівым дакорам: як дажыліся да такога? Як змаглі дапусціць? Вочы, вочы, вочы ў абрамленні рваных, абгарэлых краёў... Як душы, прайшоўшыя праз полымя.

Асцярожна абцёршы попел і бруд з вялікага абраза Божай Маці, адна жанчына ціха сказала: «Багародзіца плача». Белыя разводы пад вачыма на іконе сцякалі на галоўку немаўляці на руках.

Яны не сціраліся...

**Таццяна СІНІТКО.**

***P.S.*** *Для тых, хто жадае дапамагчы ў аднаўленні храма, паведамляем разліковы рахунак для ахвяравання сродкаў: № 3015208020017 ва ўпраўленні «Белбізнесбанка» па Мінскай вобласці (код 737), атрымальнік — Спаса-Праабражэнская царква, г. Заслаўе.*



Вішнева. Дарога маладых.

## НА ФОНЕ АРХІТЭКТУРЫ



Глыбокае. Партрэт незнаёмага.
Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

# Смілавіцкая валяльна-лямцавая фабрыка: прадпрыемства, якое ўжо дайшло да рынку

## НА ШЛЯХУ ДА ЯГО КАЛЕКТЫЎ МЕЎ НЕ ТОЛЬКІ АБУТАК, АЛЕ І АДЗЕННЕ З ХАРЧАВАННЕМ

**Кожны раз, калі ўспамінаю аб гэтым прадпрыемстве, на памяць міжволі прыходзіць колішні анекдот аб тым, як у «правадыра народаў» запыталіся, чаму на шляху да рынку народ галадае. «Дык у дарозе ніхто не абяцаў карміць» — быў просты адказ правіцеля. Напэўна, каб гаворка ішла пра Смілавіцкую валяльна-лямцавую фабрыку, сэнс гэтага анекдота быў бы зусім процілеглы. Пішу так не толькі таму, што фабрыка чымсьці мне родная (тут прайшло амаль усё маленства, сюды я некалі хадзіў замест дзіцячага садзіка да маці з бацькам, якія аддалі прадпрыемству ў суме каля 50 гадоў жыцця, і дзе я калісьці ведаў усе «сцежкі» паміж цюкамі бавоўны каля станкоў і ў майстэрнях), а таму, што за апошнія гады прадпрыемства зрабіла рашучы крок наперад у сваім развіцці, здолеўшы не толькі выжыць падчас эканамічнага бязладдзя, але і трывала стаць на ногі, захаваць калектыў, наладзіць вытворчасць новай прадукцыі. Не выпадкова сёння Смілавіцкая валяльна-лямцавая фабрыка лічыцца адным з самых стабільна працуючых і рэнтабельных прадпрыемстваў Чэрвеньскага раёна, што, пагадзіцеся, зараз азначае вельмі многае. Найперш, занятасць насельніцтва, потым — стабільны і неблагі заробак. У рэшце рэшт, імідж, які ствараюць працаўнікі прадпрыемства не толькі сваёй уласнай прадукцыі, але і ўсім таварам з маркай «Зроблена ў Беларусі» за межамі краіны. Зразумела, як зямляк, да таго ж журналіст, я не мог не наведаць фабрыку, каб яшчэ раз не пераканацца ў тых станоўчых зменах, што адбыліся на прадпрыемстве за апошні час.**

### Крыху гісторыі

Сваю дзейнасць Смілавіцкая валяльна-лямцавая фабрыка пачала ў 1928 годзе з «Чырвонай арцелі» — прадпрыемства з мінімальным выпускам асноўнай прадукцыі, г. зн. валёнкаў. Вядома ж, усе работы тады выконваліся на ім уручную. Бліжэй да нашых дзён фабрыка значна пашырылася і ўжо ўяўляла сабой буйное прадпрыемства. Гады тры таму яго магутнасці складалі 345 тысяч пар цёплага абутку ў год, пры вытворчасці якога выконваліся амаль сорак тэхналагічных працэсаў. Прадукцыя пастаўлялася ў многія рэгіёны колішняга Саюза. Колькасць работнікаў на фабрыцы складала 170 чалавек. Здавалася б, жыві і радуйся: валёнкі выпускалі круглы год, не баючыся, што з надыходам сезона яны не будуць рэалізаваны. Усё было перакрэслена ў выніку разрыву колішніх эканамічных сувязей і інфляцыі, што пачалася колькі часу таму. Становішча склалася да таго крытычнае, што трэба было тэрмінова шукаць выйсце з крызісу. Для Смілавіцкай валяльна-лямцавай фабрыкі ім стаў шлях шматпрофільнага тэхнічнага пераабсталявання: да асноўнай вытворчасці цёплага абутку, якую ніхто не збіраўся згортваць, дадаліся швейныя вырабы, потым вытворчасць тавараў народнага спажывання (сумак, партманетаў, дыванкоў і інш.) і, нарэшце, — выпуск мяккай мэблі. Мала таго, у бліжэйшых планах кіраўніцтва прадпрыемства значыцца вытворчасць... бульбяных чыпсаў!

### Галоўным было не «згубіць» галаву

Як лічаць самі работнікі, стварэнне шматпрофільнага прадпрыемства было «наканавана» самім жыццём.

— Працаваць падчас эканамічнага бязладдзя на склад па 4-5 месяцаў у год (вясна-лета), калі не ведаеш, што цябе чакае нават праз тыдзень, было проста недаравальна, — расказвае дырэктар фабрыкі Васіль Мікалаевіч Сабан. — Патрэбна была нейкая мабільнасць вытворчасці, якая б дазволіла імгненна рэагаваць на кан'юнктуру рынку, скажам, як у Польшчы, дзе шмат прадпрыемстваў, якія займаюцца вытворчасцю ў залежнасці ад сезона. Было вырашана займацца выпускам валёнкаў са жніўня па люты, г. зн. восень-зіму, калі гэтая прадукцыя карыстаецца попытам. З лютага фабрыка пераключаецца на швейную і мэблевую вытворчасць.

Зразумела, усё гэта давалася няпроста, тым больш, што самым балючым пытаннем быў лёс працоўнага калектыву. Але ўсё скончылася на дзіва мірна: на прадпрыемстве засталіся тыя ж самыя людзі. Работнікі прайшлі курсы перападрыхтоўкі ў Мінску, некага адпраўлялі вучыцца ў тэхнікум або вучылішча, а таксама на мэблевую фабрыку ў Астрашыцкім Гарадку. Запрашалі выкладчыкаў і ў цэхі. Як не без гонару зазначыў Васіль Мікалаевіч, сёння ўсе працаўнікі фабрыкі маюць па 2-3 сумежныя спецыяльнасці. Зараз на прадпрыемстве працуюць уласныя мадэльеры-канструктары па швейных вырабах, ёсць цікавыя напрацоўкі ў мэблевым напрамку. Паверце, многае з таго, што пабачыў на свае вочы, зрабіла б гонар, напрыклад, не аднаму сталічнаму магазіну адзення. Нават фотакор, які рабіў здымкі, не ўстрымаўся ад набыцця ў падарунак жонцы на дзень нараджэння цудоўнага, махровага халата. Асабіста я ўстрымаўся ад такога ж учынку толькі з-за боязні не дагадзіць сваёй палавіне колерам пакупкі.



◆ Дырэктар фабрыкі В. САБАН.

Натуральна, выдатная якасць прадукцыі разам з умеранымі цэнамі не маглі не прынесці свайго плёну: тавары, што выпускае Смілавіцкая валяльна-лямцавая фабрыка, на складах не залежваюцца.

— На сярэдзіну кастрычніка ў нас было каля 50 тысяч пар валёнкаў, — гаворыць дырэктар. — Зараз на складзе пуста: усё прададзена. Тое ж самае са швейнымі вырабамі, з мэбляй. Таму праблем з абаротнымі сродкамі ў нас зараз не існуе. Прадукцыю ў нас забіраюць прама на прадпрыемстве самавывазам, прычым нават расійскія калегі.

Зразумела, справа тут не толькі ў добрым збыце. Адбіваецца і прадуманая сістэма забеспячэння вытворчасці сыравінай і матэрыяламі. Як у вядомай прымаўцы, на фабрыцы летам рыхтуюць на зімовы сезон бавоўну, а зімой — тканіну, драўніну і нават цвікі для швейнага і мэблевага цэхаў на летні час. Акрамя стабільнага графіка працы (фабрыка прастойвае 2-3 дні ў год), гэта дазваляе «абхітрыць» інфляцыю і не ўзнімаць цэны. Скажам, на сённяшні дзень пара валёнкаў Навагрудскай фабрыкі каштуе 100 тысяч рублёў, Смілавіцкай — 85 тысяч (пры рэнтабельнасці каля 30 працэнтаў). Добра прадпрыемству — добра рабочым, чый сярэдні заробак за мінулы месяц склаў 1 млн. 780 тысяч рублёў.

Зрэшты, ёсць у фабрыкі і свае праблемы. Найперш, бадай, гэта датычыцца супрацоўніцтва з айчыннымі кліентамі. З-за адсутнасці грошай многія з іх нярэдка адмаўляюцца ад сваіх заказаў або просяць прадукцыю на рэалізацыю, абяцаючы вярнуць сродкі праз тыдзень—месяц—год. Вось і атрымліваецца, што такія дагаворы застаюцца пераважна толькі на паперы. Абмовіўся Васіль Мікалаевіч і аб яшчэ адной праблеме. У раёне, як, бадай, і па ўсёй краіне расце беспрацоўе. Цэнтр занятасці насельніцтва можа прад'явіць прэтэнзіі: маўляў, стабільна працуеце, чаму б вам не ўзяць да сябе колькі беспрацоўных. А раённыя ўлады возьмуць ды прымуць адпаведнае рашэнне. Зразумела, дапамагчы беспрацоўным — святая справа. Але ці не атрымаецца так, што, імкнучыся да добрага, можна зрабіць благое. Моц і мабільнасць фабрыкі якраз у тым, што там няма лішніх людзей, усё на сваіх месцах. У залежнасці ад сезона і напрамку вытворчасці яны толькі пераходзяць з цэха ў цэх. Узяць дадатковых людзей, скажам, на вытворчасць валёнкаў — значыць зноў займацца іх выпускам увесь год, працаваць на склады. Ці не стане гэта тым цяжарам, які здольны «патапіць» прадпрыемства? Бо нават на мяркуемую вытворчасць бульбяных чыпсаў фабрыка не збіраецца браць людзей, а плануе па ўжо знаёмай і адпрацаванай схеме перавучваць сваіх работнікаў, даючы ім яшчэ адну сумежную спецыяльнасць.

### З надзеяй — у будучыню

На сённяшні дзень Смілавіцкая валяльна-лямцавая фабрыка выпускае каля 40 найменняў самай разнастайнай прадукцыі. Нешта ідзе за мяжу Беларусі, нешта разлічана толькі на айчыннага спажыўца — галоўнае, што задаволены пры гэтым, без перабольшання, усе. Лепшае пацвярджэнне таму — цэны. Мяркуйце самі: у фірменным магазіне прадпрыемства (дзе, дарэчы, гандлёвая надбаўка складае ўсяго 3 працэнты) можна набыць неблагія мужчынскія кашулі па 65—113 тысяч рублёў (у Мінску мінімум пачынаецца са 120 тысяч), халаты — па 98 тысяч (а не па 200, як у гандлі), валёнкі — па 67—164 тысячы рублёў (простыя і з гумавай падэшвай). Дзіцячы касцюмчык тут абыдзецца ў 42.000, махровыя паўзункі — у 16.500 рублёў. З мэблі: крэсла-ложак — 1 млн. 854 тысячы «зайцоў», канапа-ложак — 3 млн. 605 тысяч і гэтак далей. Дзякуючы невялікай гандлёвай надбаўцы магазін ад адсутнасці пакупнікоў не церпіць. Загадчык магазіна Лідзія Семіжон, толькі за палову кастрычніка рэалізавана прадукцыі на суму ў 450 млн. рублёў. Бываюць дні, калі толькі дзённая выручка складае 110 ці нават 260 мільёнаў рублёў. Што яшчэ трэба? І раптам — бульбяныя чыпсы. Ну, наконт мэблі, швейных вырабаў яшчэ можна зразумець, але ж тут харчовая вытворчасць?! Што падштурхнула фабрыку да гэтага?

— Гэтым трэба «захварэць», — смяецца ў адказ Васіль Мікалаевіч. — Калі раз паспрабаваў нешта новае, потым увесь час цягне прадаўжаць. А калі сур'ёзна, у нас у Беларусі ёсць яшчэ пэўныя пазіцыі, якія не позна заняць. Зразумейце, гэта рынак, які ўвесь час змяняецца. Выраблялі мы коўдры, яны добра ішлі, а потым попыту не стала. Значыць, трэба шукаць нешта новае. А тут якраз мінскі інстытут харчовай прамысловасці выйшаў на нас з прапановай заняцца вытворчасцю чыпсаў. А чаму б не, вырашылі мы. Замежная прадукцыя вагой 150 г зараз каштуе 8—19 тысяч, наша, па падліках, абыдзецца пакупніку ў 3,5 тысячы рублёў. Як вы думаеце, будзе канкурэнцыя? Пры належнай упакоўцы тэрмін захоўвання чыпсаў складзе тры месяцы. Зараз распрацоўваем варыянты збыту будучай навінкі. Калі ўсё пойдзе добра, з вясны пачнём выпуск.

Што ж, поспехаў вам і ў гэтым пачынанні!

**Інфармацыйна-рэкламную старонку падрыхтаваў Сяргей РАСОЛЬКА,**
**фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



◆ Работнікі бухгалтэрыі (першы рад злева направа) Лідзія УРУБЛЕЎСКАЯ, Станіслава АНЦІЛЕЎСКАЯ (галоўны бухгалтар); Галіна ШЭНДЗІК, Генадзь ЧУМАК, Мая АБРАМЧЫК, Наталля УРБАНОВІЧ (другі рад).



◆ У цэху гатовай прадукцыі працуюць Наталля КАЛЕНІК, Вольга БРЭЧКА, Галіна ЗАРАНЧУК.





◆ Мэблевыя вырабы.

# Восень. Цыгарэтна-гарэлачная мафія зноў пацягнулася ў Беларусь

**Чаго ў нашай незалежнай дзяржавы пакуль не ўдалося яшчэ адабраць, украсці ці «прыхватызаваць», дык гэта унікальнага геаграфічнага становішча. Праўда, атрымліваць выгаду з удалага месцазнаходжання Беларусі, на жаль, найлепш навучыліся кантрабандысты. Асаблівай актыўнасцю сваёй незаконнай дзейнасці на тэрыторыі нашай краіны апошнім часам вызначаецца цыгарэтна-гарэлачная мафія.**

**Зрэшты, гэта і не дзіўна. З усіх відаў незаконнага бізнесу найбольшы прыбытак прыносіць якраз гандаль спіртнымі напоямі і тытунёвымі вырабамі. Так было спрадвеку. І ва ўсе часы дзяржаўныя мужы, якія клапаціліся аб напаўненні казны, імкнуліся захаваць дзяржманаполію на звышпрыбытковыя тытунь і гарэлку. Аналагічныя, прычым неаднаразовыя, спробы навесці выгадны дзяржаве парадак на алкагольна-цыгарэтным рынку краіны рабілі і кіраўнікі Беларусі. Аднак тытунёвыя і гарэлачныя «бароны», відаць, не збіраюцца добраахвотна аддаваць дзяржаве кавалак «смачнага пірага». У выніку дзяржаўная скарбонка не атрымлівае ў выглядзе акцызнага і іншых падаткаў мільярды рублёў.**

**Таму праблема барацьбы з незаконным алкагольна-тытунёвым бізнесам зараз мае ў літаральным сэнсе агульнадзяржаўнае значэнне.**

**Як жа спыніць цыгарэтна-гарэлачную мафію?**

**На гэтае і іншыя пытанні карэспандэнт «Звязды» папрасіў адказаць начальніка аддзела ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю (УБЭЗ) Міністэрства ўнутраных спраў краіны Аляксандра ЯЦКОЎСКАГА.**

**— Аляксандр Трафімавіч, апошнім часам складваецца такое ўражэнне, што праваахоўныя і кантралюючыя органы махнулі рукой на праблему незаконнага продажу алкагольных і тытунёвых вырабаў. Гандляры «кантрабанднымі» цыгарэтамі і спіртнымі напоямі дзейнічаюць зусім адкрыта, часам на вачах міліцыянераў.**

— Я не магу пагадзіцца з такой катэгарычнай ацэнкай нашай дзейнасці. Супрацоўнікі нашых службаў барацьбы з незаконным цыгарэтна-тытунёвым бізнесам не спынялі ніколі.

У прыватнасці, за 9 месяцаў бягучага года работнікамі органаў унутраных спраў праверана звыш 47 тысяч розных аб'ектаў. Выяўлена 687 злачынстваў, з якіх 456 фактаў парушэння парадку ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці, 60 фактаў спекуляцыі, 34 факты крадзяжу маёмасці, 19 — хабарніцтва, 131 — заняцця забароненымі відамі прадпрымальніцкай дзейнасці. Складзена 31.506 адміністрацыйных пратаколаў.

У правапарушальнікаў канфіскавана падакцызных тавараў на суму каля 58 мільярдаў рублёў, у тым ліку алкагольных напояў — на 31,4 мільярда рублёў, тытунёвых вырабаў — на 26,5 мільярда рублёў.

**— І ўсё ж, даруйце, але ваша змаганне з цыгарэтна-гарэлачнай мафіяй нагадвае знакамітую барацьбу Асілка са Змеем Гарынычам: вы, скажам так, адсякаеце гэтай пачвары галаву, а на яе месцы вырастаюць тры новыя. Няўжо алкагольна-тытунёвая мафія бессмяротная?**

— Чаму ж? Як вы памятаеце, у казцы Асілак у рэшце рэшт перамагае Змея.

Калі ж гаварыць пра рэальную праблему барацьбы з незаконным абаротам спіртных напояў і цыгарэт, то вырашыць яе таксама можна. Для гэтага, на маю думку і па меркаванню маіх калег, варта найперш аб'яднаць намаганні праваахоўных і кантралюючых органаў. У прыватнасці, неабходна часцей праводзіць сумесныя праверкі нашых падраздзяленняў з падатковымі інспекцыямі і Мытным камітэтам.

Не сакрэт, што кантрабандныя цыгарэты і алкагольныя напоі, як правіла, трапляюць на Беларусь з Прыбалтыкі і Украіны.

Напрыклад, 3 верасня каля Валожына супрацоўнікі ДАІ затрымалі 8 грузавікоў, якія везлі 117.600 бутэлек кантрабанднай гарэлкі «Асланов». Па дакументах гэты груз прызначаўся ТАА «Алатау» з Алма-Аты. Праўда, як высветлілася, такой фірмы па ўказанаму адрасу ў Алма-Аце няма.

18 верасня на тэрыторыі Беларусі быў затрыманы жыхар Ковеля, які вёз без аніякіх дакументаў 200 літраў спірту і 1500 блокаў імпартных цыгарэт без акцызных марак.

28 верасня ў вёсцы Насілава Маладзечанскага раёна былі затрыманы тры аўтамабілі, якія нелегальна везлі 272 бочкі з этылавым спіртам на суму 2,7 мільярда рублёў. Спірт гэты зноў жа трапіў на Беларусь кантрабандным шляхам з Літвы.

7 кастрычніка падчас правядзення рэйдавых мерапрыемстваў каля вёскі Гарадок Маладзечанскага раёна ў кузаве аўтамабіля «МАЗ» было знойдзена 17.900 бутэлек «кантрабанднай» гарэлкі «Асланов» на суму больш як 50 тысяч долараў. Як высветлілася пазней, кантрабандысты спрабавалі перавезці гэтую гарэлку з Клайпеды ў Маскву.

Далей. Пры здачы складскіх памяшканняў у арэнду іх гаспадары не абцяжарваюць сябе клопатам нават пацікавіцца: а што ж там будзе захоўвацца? У выніку склады многіх дзяржаўных прадпрыемстваў ператварыліся ў сапраўдныя падпольныя базы алкагольна-тытунёвай мафіі. На такіх прадпрыемствах і захоўваюцца якраз кантрабандныя гарэлка і цыгарэты.

У пацвярджэнне прывяду некалькі прыкладаў.

28 жніўня ў ангары, які належыць калгасу «Перагонцы» Воранаўскага раёна, супрацоўнікамі праваахоўных органаў было выяўлена 12 тысяч літраў кантрабанднага спірту. Як высветлілася, гэты напой нелегальна ўвёз у нашу краіну адзін літоўскі камерсант.

19 верасня супрацоўнікамі УБЭЗ Першамайскага раёна Мінска пры правядзенні аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў на складзе МП «Тэхнічны цэнтр тэрміновай эканамічнай дапамогі» ў пасёлку Новы Двор знойдзена і канфіскавана 9300 бутэлек гарэлкі «Расія». Ні адпаведных дакументаў, ні акцызных марак на гэты тавар не было.

І яшчэ. Адміністрацыі мясцовых органаў улады, якія выдаюць ліцэнзіі на права рэалізацыі алкагольных напояў і тытунёвых вырабаў, не заўсёды кантралююць гэтыя суб'екты гаспадарання. Таму ўладальнікі падобных ліцэнзій вельмі часта займаюцца рэалізацыяй кантрабандных цыгарэт і гарэлкі. Мяркую, што пры наладжванні належнага кантролю з боку мясцовых уладаў кантрабандысты страцяць зусім легальны дах, які ім зрабілі несумленныя ўладальнікі спецыяльных ліцэнзій.

Зрэшты, і некаторыя асобныя грамадзяне апошнім часам актыўна займаюцца гандлем спіртнымі напоямі і цыгарэтамі без акцызных марак.

Так, нядаўна ў Мінску быў затрыманы грамадзянін нашай краіны, які, не маючы адпаведнай ліцэнзіі, прадаваў гарэлку «Русская». У гэтага «карабейніка» канфіскавана 7300 бутэлек гарэлкі на суму 219 мільёнаў рублёў.

У сталіцы днямі таксама былі затрыманы і гандляры кантрабанднымі імпартнымі цыгарэтамі. У падпольных збытчыкаў пры вобыску было канфіскавана цыгарэт на 300 мільёнаў рублёў.

Словам, як бачна, міліцыя не спіць у шапку і вядзе актыўную барацьбу з цыгарэтна-алкагольнай мафіяй.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# ФІНАНСЫ ПАКУЛЬ СПЯВАЮЦЬ РАМАНСЫ: КРЫМІНАЛЬНЫ АСПЕКТ

**ТОЛЬКІ ЗА 9 МЕСЯЦАЎ гэтага года ў крэдытна-банкаўскай сістэме рэспублікі выяўлены 902 злачынствы. Іх колькасць па прычыне актывізацыі работы апаратаў УБЭП за апошнія 3 гады ўзрасла ў 2,7 раза. Матэрыяльны ўрон па справах аб крадзяжах, якія ўстаноўлены, складае ўжо сёлета больш як 120 млрд. рублёў. З кожным днём ён расце і расце. Сума ж кампенсаванага ўрону, нягледзячы на ўсе намаганні, складае па рэспубліцы 20,6 працэнта. Крэдытна-фінаснавая сістэма дзяржавы на сённяшні дзень з'яўляецца адной з найбольш крыміналенных.**

Так, варта было толькі нядаўна ў сістэму міжбанкаўскіх разлікаў увесці сістэму электроннага пераводу грошай, як з'явіўся такі від злачынстваў, як камп'ютэрны. За адзін раз зламыснікі паспрабавалі такім чынам выкрасці 1,7 млрд. рублёў, але былі спынены. Сур'ёзна непакоіць і тое, што заявы аб учыненых крадзяжах з банкаў трапляюць у праваахоўныя органы часта праз паўгода і больш — як правіла, пасля чарговай змены кіраўніцтва банка. Бывае, што работнікі міліцыі прымаюць да вытворчасці так званыя «глухія» справы па схеме — кліент у вышуку, грошы зніклі. Як паказвае практыка, у паспяховым завяршэнні справы ў шэрагу выпадкаў не зацікаўлена само кіраўніцтва банка. Самім жа работнікам УБЭП усю дзейнасць падобных камерцыйных структур трымаць пад штодзённым кантролем цяжка. Бо банкаў у нас з філіяламі ўсяго 997.

Цяпер самы распаўсюджаны від злачынстваў — незаконнае атрыманне крэдытаў. Такія паведамленні паступаюць (хоць і са спазненнем) то з аднаго, то з другога банка. За 9 месяцаў гэтага года, нягледзячы на прымаемыя прафілактычныя меры, сума незаконна атрыманых крэдытаў склала больш як 209 млрд. рублёў. Вядома ж, махінатары такія крэдыты часцей атрымліваюць, даючы банкаўскім работнікам хабар. Не так даўно былі выкрыты ў атрыманні хабару кіраўнікі аддзялення аднаго з віцебскіх акцыянерных банкаў, кіраўнікі шэрага філіялаў у Брэсцкай вобласці. Заведзена таксама крымінальная справа на начальніка аддзела ўпраўлення крэдытных рэсурсаў аднаго са сталічных банкаў за аказанне садзейнічання ў атрыманні крэдыту ў памеры 100 тысяч долараў ЗША.

Часта крэдыты выдаюцца банкамі (з дапамогай хабару ці без яго) па фіктыўных дакументах з наступным крадзяжом грошай. Так, больш за тры гады працягваецца вышук дырэктара аднаго са знешнеэканамічных канцэрнаў. Толькі ў сакавіку гэтага года ён быў затрыманы ў Цюмені і этапіраваны ў нашу рэспубліку, а потым і арыштаваны. Геаграфія яго злачыннай дзейнасці ўключала дачу хабару, атрыманне крэдытных рэсурсаў у банках рэспублікі пад фіктыўныя кантракты і дагаворы, наступны крадзеж грошай шляхам пераводу іх на тэрыторыю іншых дзяржаў. Гэта спрыяла разбурэнню страхавых кампаній, вымушаных плаціць банкам. Калі той, хто бярэ крэдыт, прапануе банкіру прыватны дагавор, ён атрымлівае грошы «пад слова гонару» (часцей пад які-небудзь дакумент, што дае права распараджацца нечым, пра што ведае толькі вузкае кола асоб). Потым вяртае доўг у тэрмін, а пэўную долю непрыметна кладзе ў кішэню банкіру. Такая форма паслуг (выдача крэдыту «пад слова джэнтльмена») тоіць у сабе спакусу для таго, хто атрымлівае крэдыт, бо, дастаткова ўбраць банкіра, які дае крэдыт, каб пытанне аб вяртанні крэдыту адпала назаўсёды. Практыка сведчыць, што кілеру за такое злачынства плаціцца да 10 тысяч долараў ЗША. Менавіта крэдыты з'явіліся прычынай смерці шэрагу банкіраў Расіі і Беларусі. Тайны, што акружаюць банкі, у шэрагу выпадкаў не спрыяюць раскрыццю злачынстваў — ні эканамічнага, ні агульнакрымінальнага характару. Сёння некаторыя банкі маюць так званы «крымінальны дах», яго прадстаўнікі займаюцца «выбіваннем» крэдытаў, разборкамі з нядобрасумленнымі партнёрамі. Калі браць пад увагу, што крэдытна-фінансавая сістэма ўяўляе сабой адзіны арганізм, дык у маштабе дзяржавы карціна для нераўнадушнага чалавека ўяўляецца даволі змрочнай. Становіцца ясна, што пажыўным асяроддзем для росту злачыннасці з'яўляецца ценявы грашовы абарот. Па ацэнках некаторых спецыялістаў, ён складае не адну сотню мільёнаў долараў. Крыніцамі ценявога абароту з'яўляюцца ў першую чаргу выкрадзеныя з банкаў (па прычыне недасканаласці сістэмы міжбанкаўскіх разлікаў) грошы. За 9 месяцаў сёлетняга года гэтая сума складае 121 млрд. рублёў. За гэтымі лічбамі не проста банкі, якія збанкрутавалі, за імі тысячы абкрадзеных укладчыкаў, а таксама вялізныя сумы, якія, магчыма, перайшлі пад кантроль злачынных груповак.

Шмат розных праблем у работнікаў УБЭП узнікае з прававым кантролем за законнасцю паходжання першаснага капіталу банкаў, кампаній і іншых суб'ектаў гаспадарання. Часта бывае так, што крымінальным структурам без уласнага ці кантралюемага імі банка не абысціся. З аднаго боку, яны акрамя сілавога націску на службовых асоб банкаў імкнуцца ажыццяўляць эканамічны захоп банкаў, укараняючыся, напрыклад, у лік іх акцыянераў. Некаторыя ж структуры, «адмыўшы» здабыты злачынным шляхам капітал, імкнуцца стварыць уласны камерцыйны банк. Так, следчым камітэтам МУС па матэрыялах УБЭП цяпер расследуецца крымінальная справа супраць грамадзяніна Д., які стварыў каля 20 камерцыйных структур, неабходных для так званага «перапампоўвання грошай». Ён з'яўляўся акцыянерам двух буйных камерцыйных банкаў. З дапамогай падобнай разгалінаванай структуры грамадзянін Д. вывеў з абароту рэспублікі каля 12 млрд. рублёў. Адчуваючы за сабой «хвост», ён спрабаваў уцячы ў Расію, але быў затрыманы ў вагоне поезда «Мінск—Масква». Гэта былі яго апошнія дні на волі. Затрымліваўся перад гэтым ён і раней у самалёце ўжо пры вылеце ў Германію, але ў першы раз з-за недахопу ўлік ён быў выпушчаны.

Адна справа, калі выкрадзеныя грошы застаюцца ў рэспубліцы — тут іх знайсці і вярнуць дзяржаве лягчэй. А вось што рабіць, калі яны ўжо «сплылі» за мяжу? Магчыма, не хутка будзе дадзены вычарпальны адказ на пытанне — колькі трыльёнаў пераведзена за мяжу камерцыйнымі банкамі. Нават меркаванні на звычайным абывацельскім узроўні сведчаць, што гэта дазваляе цяпер бязбедна жыць на Захадзе некаторым банкірам, бізнесменам, скупляць там нерухомасць, вучыць сваіх дзяцей у прэстыжных ВНУ і г. д. Форма вывазу за мяжу грошай вядомая: крэдытаванне суб'ектаў гаспадарання пад фіктыўныя кантракты, дагаворы, потым перавод грошай за «кардон» і наступнае іх невяртанне (ні тавару, ні грошай). Так, нядаўна была ўзбуджана крымінальная справа супраць кіраўнікоў сістэмы прадпрыемстваў аднай з вядомых фірмаў, атрымаўшых у двух камерцыйных банках пад фіктыўны залог крэдыты на суму 7 млн. долараў ЗША. Грошы былі пераведзены за мяжу, куды потым перамясціліся і службовыя асобы фірмы. Надзець наручнікі на іх там — задача цяжкая.

Стала б лягчэй папярэджваць злачынствы ў крэдытна-банкаўскай сферы, калі б так званыя ўяўнае прадпрымальніцтва, выцягванне крэдытаў былі аднесены да ліку цяжкіх злачынстваў. Неабходна ўзмацніць патрабаванні да стварэння і функцыянавання банкаўскіх структур, што перашкаджала б з'яўленню ў ліку акцыянераў асоб са злачыннага свету. Трэба ўдасканаліць практыку інфармацыйнага абмену паміж банкамі і праваахоўнымі органамі аб так званых падазроных аперацыях і здзелках. Спасылкі некаторых банкаўскіх работнікаў на інстытут банкаўскай тайны не заўсёды юрыдычна карэктныя, таму што не можа быць тайны ад работніка міліцыі, калі размова ідзе аб папярэджанні ці раскрыцці канкрэтных злачынстваў. Бо ў краінах Захаду падобныя сакрэты ад работнікаў паліцыі ўтойваць не прынята. Усё гэта дапамагло б рэзка скараціць колькасць злачынстваў у крэдытна-банкаўскай сферы, аздаравіць эканоміку дзяржавы, аблегчыць працу работніка УБЭП.

**Васіль КУРЛОВІЧ,**
**падпалкоўнік міліцыі.**

# УСХОДНІ ГАРАСКОП

## НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

КАЗЯРОГ сутыкнецца з праблемамі ў дзелавой і фінансавай сферы. Зоркі не раяць вам звяртацца да «забароненых прыёмаў» у спробе палепшыць сваё становішча. Прадстаўніцам прыгожага полу ва ўзросце ад 24 да 32 гадоў рэкамендуецца звярнуць увагу на сваё здароўе і паклапаціцца аб фігуры.

ВАДАЛЕЙ крыху занервуецца, калі яму перашкодзяць у рэалізацыі буйнога праекта ў бізнесе. Збярыцеся з сіламі і працягвайце дабівацца свайго, але ні ў якім разе не кідайце пачатага і не спрабуйце заняцца чым-небудзь іншым. Тыдзень акажацца найбольш выніковым для настаўнікаў і юрыстаў. Продаж нерухомасці лепш перанесці на наступны месяц, калі цэны на яе павысяцца.

РЫБЫ пераканаюцца, што іх бізнес ідзе не тым шляхам. Магчыма, вы зрабілі памылку, якую цяпер давядзецца выпраўляць. Банкаўскія служачыя і спецыялісты-электроншчыкі адчуюць цягу да змены прафесіі. Моладзь можа накіроўвацца ў якое-небудзь падарожжа, якое падорыць ім рамантычныя прыгоды.

АВЕНЫ, якія займаюць адказныя пасады, атрымаюць дадатковыя паўнамоцтвы. На просьбы аб прыёме на работу прыйдзе станоўчы адказ. Вашы дарослыя дзеці далучацца да вашага бізнесу. Вучоных чакае стажыроўка за мяжой, а закаханым давядзецца перажыць крызіс у адносінах адзін да аднаго.

ЦЯЛЬЦЫ адчуюць на ўласных плячах дадатковы груз. Ужо не за гарамі завяршэнне буйнога праекта, што прынясе задавальненне і дывідэнды. Рэкамендацыя добрага сябра дапаможа вам атрымаць выгадны кантракт. У сям'і будзе поўнае ўзаемаразуменне і настане адчуванне сямейнага шчасця.

БЛІЗНЯТЫ вернуцца да спраў, якія былі закінуты і амаль забыты. Можна будзе расстацца з нерухомасцю ці ўласнасцю, якой ўжо не карыстаецеся. Дзелавыя паездкі акажуцца паспяховымі і прадуктыўнымі. Хатнія справы зоймуць увесь ваш час у канцы тыдня. У асабістым жыцці могуць з'явіцца праблемы, і вам будзе ўжо не да чужой бяды.

РАК акажацца на вяршыні поспеху. Бізнес прынясе нечакана высокі даход. Дзейнічайце самі і не перакладвайце на іншых выкананне дзелавых праектаў, толькі ваш асабісты ўдзел гарантуе ім поспех. Усё ўдала будзе складвацца і ў асабістым жыцці, магчымы лёгкі флірт і блізкія адносіны з тымі, каму вы даўно падабаецеся.

ІЛЬВЫ атрымаюць выгадныя прапановы ў адказ на просьбу аб прыёме на работу. Значная доля ў бізнесе гарантавана вам з боку новых партнёраў. Жадаючыя адкрыць сваю справу ці пачаць новы праект могуць ажыццявіць задуманае, але перш за ўсё вам трэба будзе старанна ўзважыць уласныя фінансавыя магчымасці.

ДЗЕВА акунецца з галавой у работу. Клічце на дапамогу толькі тых, хто сапраўды разбіраецца ў сутнасці справы. Больш часу правядуць дома тыя, хто даглядае састарэлых бацькоў і сваякоў. Кароткае падарожжа навее вам крыху сумныя, але прыемныя ўспаміны аб мінулым.

ШАЛІ падпішуць важны кантракт, які прывядзе да выгадных знаёмстваў з новымі дзелавымі партнёрамі. Магчыма, з імі вы адкрыеце невялікае сумеснае прадпрыемства ці фірму. На чарзе паездка ў далёкі рэгіён, а ў хатніх гаспадынь паявяцца дадатковыя клопаты, звязаныя з аказаннем дапамогі сваякам, якія прыедуць здалёку.

СКАРПІЁН атрымае новае назначэнне або возьмецца за чарговы важны праект. У канцы тыдня трэба будзе падпісаць вельмі сур'ёзны кантракт, не выключана, што для гэтага трэба будзе адправіцца за мяжу. Планеты спрыяюць розным сямейным справам, наведванню далёкіх сваякоў. Студэнты змогуць паспяхова здаць экзамены.

СТРАЛЕЦ прадоўжыць выкананне не вельмі цікавай, але затое важнай работы. І не спяшайцеся брацца за новую справу, яна прынясе больш клопатаў, чым даходу. Не час таксама ажыццяўляць на практыцы новыя ідэі і пачынаць рэалізацыю глабальных планаў. Лепш прысвяціце сябе асабістаму жыццю, сустрэчам з сябрамі і забавам.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР—ТАСС.**

# ВІНШАВАННІ

Віншуем любую матулечку **Марыю Мацвееўну Колтун** з в. Паплавы Бярэзінскага раёна з 50-гадовым юбілеем

*Мілая, любімая матуля,*
*Ад шчырага сэрца цябе мы віншуем,*
*Жадаем шчасця, даўгалецця,*
*Здароўя, што ўсяго каштоўней,*
*А поспехі унукаў і дзяцей —*
*У тваёй веры і надзеі.*
*Ты нас уводзіла ў свет людзей*
*І вернымі табе мы будзем, як раней.*

**Свёкар, муж, дзеці, унук Барыс.**

---

Віншуем дарагога мужа, бацьку, дзядулю з днём нараджэння. Жадаем здароўя і даўгалецця.

**Жонка, дзеці і ўнукі.**
**Слонімскі раён, п/а Кастровічы.**
**Стасюкевіч Марыя Пятроўна.**

### АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ПАСЫЛАЛА БАБА ДЗЕДА

**Яна была любімай артысткай многіх насельнікаў нашай краіны. Іх сэрцы кранаў яе звонкі, прыгожага тэмбру голас. Жыхары гарадоў і вёсак спяшаліся на канцэрты Дзяржаўнага народнага хору Беларусі, дзе ў 1960—пачатку 1980-х гадоў яна выступала салісткай, каб пабачыць яе, пачуць яе спеў. Голасам высокага дыяпазону яна ўмела тонка перадаць разнастайныя адценні пачуццяў. Такой засталася ў людской памяці Марыя Адамейка, заслужаная артыстка краіны.**

Вельмі каларытны жаночы вобраз стварыла Марыя Уладзіміраўна пры выкананні народнай песні «Пасылала баба дзеда». Інтанацыяй, пластычным рухам, позіркам спявачка на сцэне перадавала свае адносіны да гераіні вакальнага твора. Артыстка любіла яе — энергічную, валявую кабету, здольную кіраваць мужчынам, разам з ёй бедавала, калі тая апынулася, як у вядомай з маленства казцы, ля разбітага карыта, і шкадавала яе.

Як звычайна пры спяванні, Марыя Адамейка вылучала асобныя фразы, рабіла на іх акцэнт, каб дапамагчы слухачам успрыняць сэнс песні, усвядоміць горкую іронію лёсу: неўтаймоўныя жаданні заўсёды вяртаюць да першапачатковага стану, а часта — увогуле прыводзяць да пакутлівых вынікаў. І спявачка выконвала гэта з артыстычным майстэрствам, выклікаючы ў прысутных і смех, і роздум...

Песня «Пасылала баба дзеда» бытуе на Беларусі ў некалькіх варыянтах. Друкуецца паводле «Анталогіі беларускай народнай песні», складзенай Генадзем Цітовічам

**Міхась ШАВЫРКІН.**




## ПАСЫЛАЛА БАБА ДЗЕДА

### Беларуская народная песня

Пасылала баба дзеда
У луг па каліну:
— Не наломіш каліданькі,
Далібог, пакіну.
Пайшоў дзед праз ваду
У луг па каліну:
Ужо дзеду вадзічанька
Залівае спіну.

А ўжо дзеду вадзічанька
Па пояс займае, —
Сядзіць баба на беражку,
Далей пасылае:
— Ідзі, дзед, ідзі, дзед,
У луг па каліну, —
Не наломіш чырвонае,
Далібог, пакіну.

Ужо дзеда вадзічанька
Па шыю займае,
Сядзіць баба на беражку,
Далей пасылае:
— Ідзі, дзед, ідзі, дзед,
У луг па каліну, —
Не наломіш чырвонае,
Далібог, пакіну.

Ужо дзеду вадзічанька
Ў самы рот ліецца,
Сядзіць баба на беражку
І з дзеда смяецца.
Хі, хі, хі, ха, ха, ха, —
Баба ўсё смяецца.
Бо вада, бо вада
Дзеду ў рот ліецца.

Дзякуй Богу, дзякуй мне,
Што няма старога.
Заўтра пайду на рыначак,
Куплю маладога.
Ля, ля, ля, ля, ля, ля,
Ўжо няма старога,
Заўтра пайду на рыначак,
Куплю маладога.

Маладога на рыначку
Баба не купіла, —
Прыйшла села на беражку
Ды загаласіла:
Устань, дзед, устань, дзед,
З цёмнае магілы,
Ой, дурная галава, —
Што ж я нарабіла.

### СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях**: 3. Евангелісцкі храм. 5. Каштоўная кармавая і харчовая сельскагаспадарчая культура. 7. Комплекс навук аб развіцці народаў Усходняй Еўропы. 9. Каштоўны камень, разнавіднасць карунда. 11. У старыя часы — вольны пасяленец з прыгонных сялян на ўскраінах Расіі. 13. Апора для палубы судна (спец.). 15. Пералік патрабаванняў, пажаданняў. 16. Данскі казак, кіраўнік сялянскіх войнаў у XVII ст. 17. Горны масіў на памежжы Польшчы, Чэхіі, Славакіі. 19. Вялікая рака на Далёкім Усходзе. 20. Горад у Падмаскоўі, вядомы па гераічнаму подзвігу панфілаўцаў. 22. Спецыяльнасць рабочага-металіста. 23. Афіцэрскі чын у царскай арміі Расіі. 24. Друкарская наборная машына. 25. Асушэнне глебы з дапамогай сістэмы каналаў. 27. Прадстаўніца народнасцей Дагестана. 29. Выкарыстанне прагрэсіўных метадаў, прыёмаў у вытворчасці. 30. Рака, прыток Дона. 31. Неадкладная работа ўсім калектывам. 32. Свяшчэнная кніга мусульман. 34. Вялікі порт на ўсходзе Афрыкі. 36. Цэнтральны стадыён у Ерэване. 37. Празаічны твор беларускага фальклору. 38. Няштатны карэспандэнт газеты, часопіса. 41. Палярная станцыя ў Антарктыдзе з ліку былых станцый СССР. 42. Іранская залатая манета. 43. Курорт у Балгарыі.

**Па вертыкалях:** 1. Сярэбраная манета на Беларусі XVI—XVII ст.ст. 2. Канструктар ракет ФАУ-2. 3. Ледакол рускага арктычнага флоту. 4. Мінерал выкапняў граніту і гнейса. 5. Майстар па вырабу бочак. 6. Востраў у Фінскім заліве, на якім размясціўся горад-крэпасць Кранштат. 7. Тып прыёмніка ў электрасувязі, радыёвяшчанні, радыёастраноміі. 8. Беларуская спявачка, артыстка тэатра оперы і балета. 9. Дэманстрацыя кінафільма без перапынку. 10. Радыёлакатар (прост.). 11. Рэчыва, якое змяняе скорасць хімічнай рэакцыі. 12. Руская народная песня-танец жартоўнага характару. 13. Вялікі горад на беларускім Палессі. 14. Лоўкасць, кемлівасць. 18. Беларускі народны танец. 20. Мячык з пер'ем для гульні ў бадмінтон. 21. Лёгкая тканіна для вышывання. 25. Партовы рабочы грузчык. 26. Паляўнічая куля на драпежнага звера. 27. Уклад прыватніка ў банку. 28. Старадаўняя катапульта вялікіх памераў. 32. Лёгкі парусны карабель. 33. Паўднёвая мінеральная вада. 34. Пастанова ўрада, якая мае сілу закона. 35. Славуты акцёр тэатра сатырычных мініяцюр, народны артыст СССР. 39. Электразацiск. 40. Стваральнік навуковай працы, твора, праекта.



**Склаў Валерый ПІНЧУК.**
*г. Бабруйск.*

## КРЫПТАГРАМА

Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка вядомую прымаўку.

а) 1-2-3-4-5 — рака ў Беларусі, прыток Дняпра; б) 6-7-8-9 — задыякальнае сузор'е; в) 10-11-12-13 — буйны курорт на Чорным моры; г) 10-8-14 — адназначны лік.



**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

***Крыжаванка-пераклад (19 кастрычніка).*** **Па гарызанталях і вертыкалях:** 1. Мэта. 2. Параснік. 3. Світанак. 4. Глог. 5. Барва. 6. Уклад. 7. Растэрміноўка. 8. Волевыяўленне. 9. Прыстасаванец. 10. Позва. 11. Аснач. 12. Махры. 13. Завадатар. 14. Шклозавод. 15. Глей. 16. Палівачка. 17. Ясік. 18. Лопат. 19. Запал. 20. Абыходак. 21. Зух. 22. Помарака. 23. Жур. 24. Ваўкалак. 25. Задавака. 26. Палкасць. 27. Загарода. 28. Плеш. 29. Вадаварот. 30. Цаля. 31. Чытач. 32. Пашча. 33. Індык. 34. Склад. 35. Павеў. 36. Збан. 37. Гіль. 38. Бомбасховішча.

***Крыптаграма (19 кастрычніка).*** Ключавыя словы ў ёй: лешч, бульба, цытата, ліса, зона. У клетках малюнка — прыказка: «Не ўсё тое золата, што блішчыць».

## ШАШКІ

### Эцюд Васіля СОКАВА

У гэтым эцюдзе рашаюць зыход барацьбы прадуманыя манеўры белай дамкі. Пашукайце выйгрыш за белых.

**Белыя:** дамка g3, простыя a3, e1 (3). **Чорныя:** простыя b4, c5, d4, h8(4).



### ПРАВЕРЦЕ РАШЭННІ

Задача А. Мядзведзева з мінулага шашачнага аддзела мае такое рашэнне:

1. ge3 ab6 (А) 2. e:a7 3. ac5 4. fe7 5. hf4 6. hg5.

А. 1. ... ab4 2. ec5! 3. he1 ab6 (Б, В) 4. fe7 5. he3 6. e:a7 7. eh4 8. hg3 9. ag1.

Б. 3. ... dc5 4. fd4 5. h:c1 6. ea5 7. ab4 8. gb2.

В. 3. ... de5 4. f:c3 5. ca5 6. ab6 7. hc1 8. ea5 9. ab4 10. gb2.

Першым даслаў правільны адказ наш чытач Л. Яфстаф'еў з г. Маладзечна.

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**26 кастрычніка 1795 года** згодна з трэцяй (Пецярбургскай) канвенцыяй паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй аб трэцім падзеле Рэчы Паспалітай да Расіі былі далучаны Курляндыя, Заходняя Беларусь і частка Левабярэжнай Украіны.

**26 кастрычніка 1811 года** нарадзіўся Эварыст Галуа, вядомы французскі матэматык. Яго працы па тэорыі алгебраічных ураўненняў палажылі пачатак развіццю сучаснай алгебры.

**У гэты дзень у 1842 годзе** нарадзіўся Васіль Васільевіч Верашчагін, мастак-баталіст, аўтар шматлікіх палотнаў.

Роўна праз дваццаць гадоў — **у 1862 годзе** — у гэты дзень з'явіўся на свет вядомы расійскі капіталіст Аляксандр Іванавіч Гучкоў, лідэр «акцябрыстаў», старшыня III Дзяржаўнай думы (1910).

**26 кастрычніка 1880 года** нарадзіўся Дзмітрый Міхайлавіч Карбышаў, генерал-лейтэнант інжынерных войскаў, доктар ваенных навук, Герой Савецкага Саюза.

**26 кастрычніка 1913 года** нарадзіўся Франсуа Мітэран, былы прэзідэнт Францыі.

І нарэшце, сёння — **нацыянальнае свята Аўстрыйскай Рэспублікі** — Дзень аднаўлення незалежнай і дэмакратычнай Аўстрыі ў 1955 годзе.

### Цікава

***Папулярнасць плеера з'яўляецца прычынай таго, што сярод моладзі стала імкліва распаўсюджвацца глухата.***

Цесна прыціснутыя навушнікі і моцная музыка выклікаюць праблемы слыху ва ўсё большай колькасці дзяцей. Калі выкарыстоўваць прыбор на поўную магутнасць, то на вушы прыпадае нагрузка ў 110 дэцыбелаў. Здаровыя барабанныя перапонкі могуць выносіць гэта без шкоды максімум паўтары хвіліны. Дарэчы, 110 дэцыбелаў адпавядаюць шуму, які ўтварае стартуючы самалёт. Між тым, да нядаўняга часу найбольшую колькасць часткова і поўнасцю глухіх складалі людзі, старэйшыя за 55 гадоў. І вось цяпер існуе небяспека, што маладыя людзі адразу ад плеера пяройдуць да слыхавых апаратаў. На думку вучоных, у бліжэйшыя гады сярэдні ўзрост людзей з пагоршаным слыхам значна знізіцца.

### Неверагоднае, загадкавае...

***У пачатку 1095 года папа рымскі Урбан II звярнуўся да хрысціян з заклікам вызваліць ад няверных Труну Гасподнюю.***

Першым на гэты заклік адгукнуўся граф Готфрыд, уладальнік горада Буён. Да лета 1095 года ён змог набраць больш як 30 тысяч пехацінцаў і 10 тысяч коннікаў. Старажытныя летапісы сведчаць, што паход пачаўся летам 1096 года, а Іерусалім быў узяты крыжаносцамі толькі ў 1099 годзе. Неўзабаве пасля гэтага ў горадзе ўспыхнула эпідэмія халеры. Лагер пераможцаў ператварыўся ў вялізны шпіталь. Адна з польскіх хронік сведчыць, што сярод рыцараў быў ураджэнец Кракава Іерамія і яго слуга Іосіф. Ад халеры Іосіф памёр, а рыцар цудам уратаваўся. Іерамія лічыў, што свайму дзівоснаму збаўленню ад хваробы і смерці ён абавязаны вялікаму нацельнаму крыжу, з якім не расставаўся ні на імгненне. Крыж гэты ў далейшым пераходзіў з пакалення ў пакаленне роду Сангушкі, да якога належаў рыцар, на працягу дзевяці стагоддзяў.

І вось нядаўна яго нашчадкі перадалі крыж у лабараторыю для правядзення хімічнага аналізу. Вынікі зробленых даследаванняў аказаліся ашаламляльнымі.

Сплаў, з якога зроблены крыж, уключаў медзь, сурму, волава, серабро. Акрамя таго быў выяўлены метал, сёння невядомы на Зямлі. Урачы-эпідэміёлагі былі аднадушныя ў меркаванні: такі падбор элементаў падаўляў і знішчаў усе хваробатворныя бактэрыі і вірусы. Ён і выратаваў рыцара ад вібрыёнаў халеры. Аб гэтым напісала газета «Жычэ Варшавы».

### Дзесьці на белым свеце

***Атрымаўшы сем гадоў за ўзброенае рабаванне, англічанін Марк Рыч вырашыў зрабіць добрую справу калі не для ўсяго грамадства, дык хоць бы для той яго часткі, якая адгароджана ад свету моцнымі турэмнымі кратамі.***

Ён склаў і выдаў працу на 430 старонках, якую назваў сціпла, але ёмка: «Даведнік зняволенага». У ім налётчык самым падрабязным чынам апісвае перавагі і недахопы ўсіх папраўчых установаў Вялікабрытаніі. Каб сабраць неабходныя матэрыялы, Рыч разаслаў анкеты насельнікам усіх турмаў Злучанага Каралеўства і ахоўнікам. І на аснове соцень адказаў напісаў сапраўдны бестселер для «зэкаў». Цяпер тым, хто чакае «адсідкі», не трэба карыстацца чуткамі, выпытваць у калег, дзе лепш кормяць, дзе найменш лютуе ахова і г.д. Цяпер дастаткова проста зазірнуць у даведнік рабаўніка Марка Рыча.

### Анекдот

*Лекцыя ў медыцынскім інстытуце.*

*Прафесар марна спрабуе перакрычаць аўдыторыю, яму гэта не ўдаецца. Тады ён ціха кажа: «Я закахаўся... — у аўдыторыі імгненна ўсталявалася цішыня. — У маладую дзяўчыну... — У аўдыторыі іранічныя ўсмешкі. — Але мне перайшоў дарогу малады чалавек... — У аўдыторыі самаздаволеныя воклічы. — У выніку я застаўся з носам, а ён — без. Дык вось, тэма лекцыі: «Сіфіліс і яго наступствы».*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94.430. Індэкс 63850.
Зак. № 6885.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12